Пралетары ўсіх краін, злучайцеся!

XVIII
7447
(XVIII)

СУВЯЗЬ САВЕЦКІХ ОРГАНАЎ ПАМІЖ САБОЙ І МАСАМІ—АСНОВА САВЕЦКАГА БУДАЎНІЦТВА

# БЮЛЕТЭНЬ

## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЕ ССР.

Б А 05/891

8 КРАСАВІКА 1927 г.
№ 7 (32)

3-ці год ВЫДАНЬНЯ

ВЫДАНЬНЕ СНК БССР
МЕНСК—1927 г.

...ССР ... імені ... ЛЕНІНА

30к-1
10363
102

Пралетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

Сувязь савецкіх органаў паміж сабой і масамі—аснова савецкага будаўніцтва.

# БЮЛЕТЭНЬ
## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЕ ССР

8 красавіка 1927 г.
№ 7 (32)

3-ці год ВЫДАНЬНЯ

XVIII
7447
(XVIII)

ВЫДАНЬНЕ СНК БССР
МЕНСК—1927 г.



# Зьмест.

## Частка афіцыйная.





## Частка неафіцыйная.



---

# ПАПРАЎКА.

Надрукаваныя ў гэтым нумары Бюлетэню СНК да „АБЕЖНІКАЎ НК ГРАШОВЫХ СПРАЎ БССР АБ УВЯДЗЕНЬНІ НОВАГА ПАРАДКУ ПРЫЁМУ, ПАДЛІКУ І ВЫДАТКАВАНЬНЯ ДЭПАЗЫТАЎ РАСПАРАДЧЫХ КІРАЎНІЦВАЎ“ формы кніг № 18 (на старонках 46—47) і № 18 а (на старонцы—45) носяць назву: 1) ФОРМА № 18 „КНІГА БЯСПРОЦАНТНЫХ БЯГУЧЫХ РАХУНКАЎ З ПАДРАБЯЗНЫМ ПААРТЫКУЛЬНЫМ РАХУНКАВОДЗТВАМ ЗА 192.....ГОД“ і 2) ФОРМА № 18-а „КНІГА БЯСПРОЦАНТНЫХ БЯГУЧЫХ РАХУНКАЎ ДЭПАЗЫТАЎ СА СПРОШЧАНЫМ РАХУНКОВАДЗТВАМ ЗА 1926—1927 г.“

---

## 1. Пастанова Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў БССР

### АБ УМОВАХ І ПАРАДКУ ВЫСЯЛЕНЬНЯ ГРАМАДЗЯН З ЗАНЯТЫХ ІМІ ПАМЯШКАНЬНЯЎ У ГАРАДОХ І МЯСТЭЧКАХ*).

Для аб'яднаньня раней выданых пастаноў аб парадку высяленьня грамадзян з занятых імі памяшканьняў (З. З. БССР за 1923 г. № 15—16, арт. 133, за 1925 г. № 21, арт. 195 і № 43, арт. 354 і за 1926 г. № 8, арт. 33) Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў БССР пастанаўляюць устанавіць наступныя ўмовы і парадак высяленьня грамадзян, з занятых імі памяшканьняў.

I.

1. Апроч выпадкаў, зазначаных у арт. 2 гэтае пастановы, высяленьне дапушчаецца толькі праз суд у наступных выпадках:

а) калі жылец знарок, або па нядбайнасьці пагоршвае становішча занятага ім памяшканьня (забруджваньне каналізацыйных труб, колка дроў у памяшканьні і г. д.);

б) калі ён карыстаецца памяшканьнем ня згодна з законам, дагаворам або прызначэньнем яго (памяшканьне, нанятае для жыльля) скарыстоўваецца для гандлю, складу тавараў, дроў і г. д.);

в) калі ён сябе так трымае, што робіць для іншых жыльцоў немагчымым сумеснае з ім пражываньне ў кватэры або ў пакоі, сыстэматычнае парушэньне цішыні і спакою і г. д.);

г) калі ён ва ўстаноўлены законам або дагаворам час не зрабіў рамонту, які ляжыць на яго абавязку;

д) у выпадку няплаты за кватэру: 1) рабочымі і служачымі дзяржаўных, грамадзкіх і прыватных устаноў і прадпрыемстваў, асобамі, якія знаходзяцца на дзяржаўным забясьпечаньні, інвалідамі працы і вайны, сем'ямі мабілізаваных, вучнямі, якія атрымоўваюць дзяржаўныя стыпэндыі, беспрацоўнымі, якія атрымоўваюць дапамогу з кас сацыяльнага страхаваньня—на працягу 2-х месяцаў, пасьля таго, як настаў час платы, 2) іншымі грамадзянамі праз 7 дзён пасьля тэрміну платы.

*Увага.* Да няплаты за кватэру прыраўніваецца неўнясеньне платы за карыстаньне вадою, каналізацыяю, апалам, асьвятленьнем і за рамонт жылішча, праз 2 месяцы, або праз 7 дзён пасьля запатрабаваньня ўнесьці плату.

е) калі жылец заняў памяшканьне, не ўваходзячае ў камунальны жылішчны фонд, без дазволу домаўласьніка або домакіраўніцтва;

ж) у выпадку, калі патрэбен капітальны рамонт памяшканьня і няма магчымасьці даць на час рамонту другое памяшканьне ў гэтым доме з тою абавязковаю ўмоваю, што пасьля канца такога рамонту жылішча павінна быць дадзена жыўшым у ім да рамонту асобам, калі яны гэтага захочуць.

2. У адміністрацыйным парадку высяленьне дапушчаецца ў наступных выпадках:

*) Апублікавана ў газ. „Савецкая Беларусь“ № 71 (1963) за 29 сакавіка 1927 г.

а) з дамоў, якія замацованы пастановамі Цэнтральнага Выканаўчага Кэмітэту або Савету Народных Камісараў за дзяржаўнымі ўстановамі і прадпрыемствамі, прафэсіянальнымі і партыйнымі арганізацыямі, калі памяшканьне патрэбна ім для службовых мэт;

б) з дамоў, якія ўваходзяць у камунальны жылішчны фонд і замацованы пастановамі акруговых выканаўчых камітэтаў, гарадзкіх або местачковых саветаў да выданьня гэтае пастановы за дзяржаўнымі ўстановамі і прадпрыемствамі, прафэсіянальнымі і партыйнымі арганізацыямі, калі памяшканьне патрэбна ім для службовых мэт;

в) з памяшканьняў, якія ўваходзяць у камунальны жылішчны фонд, а таксама з жылое плошчы ў прыватных домаўладаньнях, якая лічыцца ў камунальным фондзе, калі яны заняты без дазволу кіраўніцтва дамамі аддзелу (часьці) камунальнае гаспадаркі або заменяючага яго органу;

г) з пагражаючых абвалам дамоў, да каго-б яны не належалі, у выпадках, калі тэрмінова трэба раскідаць, або адбудаваць той ці іншы дом. Факт беспасрэднае пагрозы абвалам і патрэбы тэрміновага высяленьня ўстанаўляецца камісіяю ў складзе старшыні—члена гарадзкога або местачковага савету і членаў: акруговага інжэнэра (у раёне або мястэчку—раённы тэхнік) і прадстаўніка прафэсіянальнага саюзу будаўнікоў там, дзе такі ёсьць, альбо прадстаўніка ад прафэсіянальных арганізацый;

д) з памяшканьняў у гасьцініцах, якія здаюцца на суткі, пасьля 14 дзён пражываньня ў іх жыльца, калі асобнаю ўмоваю гэты тэрмін ня быў працягнуты;

е) з памяшканьняў, якія здаюцца рабочымі і служачымі пры найманьні на сэзонную работу,—праз 3 дні пасьля сканчэньня работы, калі з імі зроблены канчатковы разрахунак;

ж) з кватэр, якія даюцца наймальнікамі дамовым работнікам, праз 14 дзён, пасьля скасаваньня дагавору найманьня;

з) з агульных памяшканьняў і інтэрнатаў пры школах, пасьля таго, як асобы, якія пражываюць у гэтых памяшканьнях, скончаць курс навукі або выйдуць па іншай прычыне з даннае школы—праз 1 месяц ад моманту, калі жылец страціць сувязі са школаю.

*Увага.* Асобы, якія жывуць у гэтых памяшканьнях і наогул ня мелі і ня маюць ніякіх адносін да іх, высяляюцца на падставе пунктаў „а“ і „б гэтага артыкулу.

і) з памяшканьняў, якія даюцца ўстановамі і прадпрыемствамі сваім супрацоўнікам—праз 2 месяцы ад моманту, калі жылец страціў сувязь з данным месцам службы;

к) з казарменных памяшканьняў—асоб, не знаходзячыхся на службе ў Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі, або ва ўстановах Народнага Камісарыяту Ваенных і Марскіх Спраў, пры ўмовах і ў тэрміны, зазначаныя ў разьдзеле II-м гэтае пастановы;

л) з памяшканьняў у паласе адчужэньня чыгуначнага і воднага транспарту,—асоб, не знаходзячыхся на службе ва ўстановах Народнага Камісарыяту Шляхаў Зносін, у парадку, устаноўленым разьдзелам III-м гэтае пастановы. З агульных памяшканьняў і дамоў для беспрацоўных—праз месяц пасьля таго, як беспрацоўны дастане работу альбо пасьля 3-х месяцаў прабываньня беспрацоўнага ў агульным памяшканьні альбо ў доме для беспрацоўных.

3. Заявы аб высяленьні падаюцца ў аддзел (часьць) камунальнае гаспадаркі ў пісьмовай форме—у выпадках, прадугледжаных

арт. 2-м за выключэньнем п. „г“, установамі і асобамі, пад ведамам якіх знаходзіцца даннае памяшканьне, і ў выпадках, зазначаных у п. „г“ гэтага самага артыкулу—прадугледжанай у ім камісіяй. У заяве павінны быць наказаны прадугледжаныя гэтым палажэньнем падставы для апаражненьня памяшканьня.

4. Аддзел (часьць) камунальнае гаспадаркі правярае гэтыя падставы і не пазьней 3-х дзён пасьля атрыманьня заявы дае загад аб высяленьні належнаму органу міліцыі. Міліцыя на працягу 2-х дзён паведамляе аб гэтым загадзя жыльца, які высяляецца, і праз 7 дзён ад дня паведамленьня выконвае гэты загад.

5. Пастанова аб высяленьні ў адміністрацыйным парадку можа быць абскарджана пракурорскаму нагляду на працягу 5-ці дзён ад дня аддачы жыльцу, які высяляецца, паведамленьня аб высяленьні. Скаргі, якія падаюцца ў парадку гэтага артыкулу, павінны быць разгледжаны адпаведным органам пракурорскага нагляду на працягу 7 дзён ад дня атрыманьня ім скаргі. Пракурорскаму нагляду даецца права прыпыняць праз належныя органы міліцыі выкананьне абскарджанае пастановы.

6. Ня могуць быць выселены ў адміністрацыйным парадку ў выпадках, зазначаных у п. п. „а“ і „б“ арт. 2-га гэтае пастановы: а) асобы, якія займаюць памяшканьне па дагавору, калі тэрмін дагавору ня скончыўся, б) асобы, зрабіўшыя за свой кошт капітальны рамонт памяшканьня—на працягу 3-х год ад дня сканчэньня рамонту.

7. Наступныя асобы могуць быць выселены ў выпадках, паказанных у п. п. „а“, „б“ і „г“ арт. 2 толькі пры ўмове, што ім абавязкова будзе дадзена годнае для жыльля памяшканьне і транспартныя сродкі: а) рабочыя і служачыя, б) беспрацоўныя, маючыя права на дапамогу па беспрацоўю, в) асобы, якія знаходзяцца на дзяржаўным забясьпечаньні і інваліды працы і вайны, г) вучні, якія атрымоўваюць дзяржаўную стыпэндыю, д) члены сем'яў чырвонаармейцаў, якія знаходзяцца на іх утрыманьні ў час прызыву на вайсковую службу, е) асобы каманднага, палітычнага, мэдыцынскага і вэтэрынарнага складу Рабоча-Сялянскае Чырвонае Арміі, Марскога і Паветранага Флёту і іх сем'і, ж) саматужнікі, якія карыстаюцца выбарчым правам.

*Увага.* Прыгоднасьць пад жылую плошчу памяшканьня, якое на падставе гэтага артыкулу даецца выканаўчымі камітэтамі высяляемым, павінна быць у выпадку спрэчак пасьведчана асобай камісіяй у складзе прадстаўнікоў ад прафэсіянальных саюзаў, органаў аховы здароўя і гарадзкога або местачковага савету. Камісія складаецца па загаду адпаведнага выканаўчага камітэту.

8. Асобы, пералічаныя ў папярэднім артыкуле, у выпадках, зазначаных у п. п. „а“ і „б“ арт. 2-га, ня могуць быць выселены ў адміністрацыйным парадку ў пэрыяд з 1-га лістапада па 1-е красавіка.

II.

9. Асобы, якія жывуць у казарменных памяшканьнях і знаходзяцца на службе ў Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі, Марскім і Паветраным Флёце, або ва ўстановах Народнага Камісарыяту Ваенных

і Марскіх Спраў, могуць быць выселены ў адміністрацыйным парадку па патрабаваньні толькі тых устаноў, якім гэта права дадзена Народным Камісарыятам Ваенных і Марскіх Спраў.

10. Наступным катэгорыям асоб, якія высяляюцца з казарменных памяшканьняў: рабочым і служачым дзяржаўных, грамадзкіх і прыватных устаноў і прадпрыемстваў, асобам, якія знаходзяцца на дзяржаўным забясьпечаньні, інваліды вайны і працы, беспрацоўным, маючым права на дапамогу па беспрацоўі, і вучням, што атрымоўваюць дзяржаўную стыпэндыю, а таксама членам сем'яў, пражываючым асобна ад вайскоўцаў,—мясцовыя выканаўчыя камітэты павінны даваць патрэбную жылую плошчу.

Памянёныя ў гэтым артыкуле асобы ня могуць быць выселены ў пэрыяд з 1-га лістапада па 1-е красавіка.

*Увага 1.* Члены сем'яў вайскоўцаў карыстаюцца, апроч таго, льготамі, прадугледжанымі 25—28, 49 –51 артыкуламі Кодэксу Законаў аб льготах для вайскоўцаў (З. З. СССР 1924 г. № 21, арт. 198) і выданаю Саветам Народных Камісараў БССР ў яго разьвіцьцё інструкцыяю (З. З. БССР 1926 г. № 15, арт. 56).

*Увага 2.* Прыгоднасьць памяшканьня пад жылую плошчу, якое даецца выканаўчымі камітэтамі на падставе гэтага артыкулу павінна быць у выпадку спрэчак пасьведчана ў парадку, паказаным ва ўвазе да арт. 7 гэтае пастановы.

11. Органы Народнага Камісарыяту Ваенных і Марскіх Спраў падаюць пісьмовыя патрабаваньні: памянёным у арт. 9 і 10 асобам аб апаражненьні на працягу месяца занятага імі казарменнага памяшканьня і адначасна адпаведнаму выканаўчаму камітэту аб дачы высяляемай асобе ў той самы тэрмін патрэбнае жылое плошчы; пры гэтым у патрабаваньні аб высяленьні павінна быць паказана, што перад выканаўчым камітэтам паднята пытаньне аб дачы жылое плошчы.

12. На працягу тэрміну, назначанага для высяленьня (арт. 11), асобы, якім запрапанавана выселіцца, маюць права абскардзіць гэтае запрапанаваньне пракурорскаму нагляду, які павінен разглядзець скаргу не пазьней 7 дзён ад часу падачы яе.

Да скаргі павінны быць далучаны дакумэнты, якія пасьвядчаюць няправільнасьць высяленьня.

13. Да вырашэньня скаргі, пададзенай ва ўстаноўлены артыкулам 12-м тэрмін, высяленьне не дапушчаецца.

14. Калі скончыцца тэрмін для дабравольнага высяленьня (арт. 11), а ў выпадках, зазначаных у арт. 12-ым, калі скарга будзе пакінута бяз вынікаў, але не раней, як пасьля канца зазначанага ў арт. 11 тэрміну, высяленьне робіцца прымусова праз органы міліцыі.

## III.

15. Асобы, якія ня служаць ва ўстановах Народнага Камісарыяту Шляхаў Зносін і займаюць памяшканьні, знаходзячыеся пад ведамам Народнага Камісарыяту Шляхаў Зносін і яго органаў на паласе адчужэньня чыгуначнага і воднага транспарту, могуць быць выселены ў адміністрацыйным парадку, без абавязковае дачы ім іншых годных для жыльля памяшканьняў, за выняткамі, паказанымі ў арт. арт. 16, 17 і 18 гэтае пастановы.

16. Члены сем'яў чырвонаармейцаў, якія знаходзіліся на іх утрыманьні ў час прызыву на вайсковую службу, асобы каманднага, адміністрацыйнага, палітычнага, мэдыцынскага і вэтэрынарнага складу Рабоча-Сялянскае Чырвонае Арміі і Рабоча-Сялянскага Чырвонага Флёту і іх сем'і, а таксама інваліды грамадзянскае вайны, могуць быць выселены ў адміністрацыйным парадку пры тэй ўмове, што ім будзе абавязкова дадзена высяляючымі ўстановамі годная для жыльля плошча і транспартныя сродкі, бяз чаго самае высяленьне ня можа быць зроблена.

17. Беспрацоўныя, маючыя права на дапамогу, вучні, якія атрымоўваюць дзяржаўную стыпэндыю, а таксама інваліды працы, якія знаходзяцца на сацыяльным забясьпечаньні, могуць быць выселены толькі праз 2 м-цы ад дня папярэджаньня іх аб высяленьні. Высяляючая ўстанова павінна адначасна з папярэджваньнем высяляемага паведаміць камунальны аддзел (часьць) аднаго з населеных пунктаў даннае акругі па выбару высяляемага аб дачы яму жылішча, а таксама даваць высяляемаму транспартныя сродкі.

18. Рабочыя і служачыя дзяржаўных, грамадзкіх і прыватных установ і прадпрыемстваў, асобы, якія знаходзяцца на дзяржаўным забясьпечаньні, інваліды працы і вайны, беспрацоўныя, маючыя права на дапамогу па беспрацоўі і вучні, якія атрымоўваюць дзяржаўную стыпэндыю, а таксама пражываючыя асобна ад вайскоўцаў члены іх сем'яў, ня могуць быць выселены з памяшканьняў, знаходзячыхся пад ведамам Нар. Кам. Шляхаў Зносін і яго органаў на паласе адчужэньня чыгуначнага і воднага транспарту, у пэрыяд з 1-га лістапада па 1-е красавіка.

19. На працягу тэрміну, назначанага для высяленьня (арт. 17), асобы, якім запрапанавана выселіцца, маюць права абскардзіць гэтае запрапанаваньне пракурорскаму нагляду, які павінен разглядзець скаргу не пазьней 7 дзён ад часу падачы яе.

Да скаргі павінны быць далучаны дакумэнты, якія пасьвядчаюць няправільнасьць высяленьня.

20. Да вырашэньня скаргі, пададзенай ва ўстаноўлены артыкулам 17 тэрмін, высяленьне не дапушчаецца.

21. Калі скончыцца тэрмін для дабравольнага высяленьня (арт. 17), а ў выпадках, зазначаных арт. 19-м, калі скарга будзе пакінута бяз вынікаў, але не раней як пасьля канца зазначанага ў арт. 17 тэрміну, высяленьне робіцца прымусова праз органы міліцыі.

22. Народны Камісарыят Шляхаў Зносін дае выселеным з памяшканьняў, якія разьмешчаны на перагонах і станцыях, знаходзячыхся за горадам, па іх хадайніцтву бясплатную перавозку дамовых рэчаў і інвэнтару ня больш 2.000 кілёграм на сям'ю да аднаго з населеных пунктаў даннае акругі па выбару высяляемага.

*Увага.* Хатняя жывёла перавозіцца па вызначанай норме, але ня больш 2-х штук буйнае і 5 штук дробнае жывёлы на сям'ю.

## IV.

23. Вінаватыя ў высяленьні грамадзян з парушэньнем гэтае пастановы прыцягваюцца, апроч грамадзянскае адказнасьці за страты, зробленыя выселеным,—да крымінальнае адказнасьці: службовыя асобы па арт. 105 і 106 Крымінальнага Кодэксу і прыватныя асобы

па арт. 103 таго-ж самага кодэксу, а ў выпадках высяленьня рабочых і служачых службовыя асобы па арт.арт. 105, 106 і 135 Крымінальнага Кодэксу і прыватныя—па арт. 135 Крымінальнага Кодэксу.

Старшыня Цэнтральнага
Выканаўчага Камітэту БССР **А. Чарвякоў.**

Старшыня Савету Народных
Камісараў БССР **Яз. Адамовіч.**

Сэкратар Цэнтральнага Выканаўчага
Камітэту БССР **З. Чарнушэвіч,**

19 лютага 1927 г.
г. Менск.

---

## 2. Абежнік Народнага Камісарыяту Земляробства і Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

АБ ПРАВЕ ПРАЦОЎНЫХ ЯЎРЭЯЎ- БЫЛЫХ ДРОБНЫХ САМАТУЖНІКАЎ, РАМЕСЬНІКАЎ І ГАНДЛЯРОЎ БЫЦЬ ЧЛЕНАМІ ПЕРАСЯЛЕНЧЫХ ТАВАРЫСТВАЎ.

*Акруговым Зямельным Аддзелам.*

У практыцы паўстала пытаньне аб тым, ці маюць права быць членамі перасяленчых таварystваў яўрэі, якія раней былі гандлярамі.

Гэтае пытаньне паўстала з прычыны таго, што згодна ўвагі да арт. 2 пастановы ЦВК і СНК БССР за 17 красавіка 1925 г. (Збор. Зак. БССР за 1925 г. № 21, арт. 198) ня могуць быць членамі перасяленчых таварystваў асобы, якія ня маюць выбарчых праў, а да такіх асоб адносяцца і прыватныя гандляры (Збор. Зак. БССР 1926 г. № 48, арт. 181, § 31 п. „б“).

Але гэтая апошняя пастанова ня можа ўжывацца ў адносінах да яўрэяў.

Да кастрычнікавай рэвалюцыі яўрэі ня мелі права працаваць на зямлі, яны павінны былі пражываць па гарадох і мястэчках і мелі права займацца толькі рамяслом і гандлем. Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў прызнаў патрэбным ня толькі даць яўрэям права працаваць на зямлі, але і даць ім сапраўдную магчымасьць атрымаць зямлю ў працоўнае карыстаньне.

25 ліпеня 1924 г. была выдана пастанова ЦВК і СНК БССР „аб земляўпарадкаваньні працоўных яўрэяў“ (Збор. Зак. БССР за 1924г. № 20, арт. 183), а 29 кастрычніка 1924 г.—пастанова „аб зацьверджаньні палажэньня аб камісіі па земляўпарадкаваньні працоўных яўрэяў“ (Збор. Зак. БССР за 1924 г. № 20, арт. 184).

Паводле гэтых пастаноў зямля павінна давацца і тым яўрэям, падаўшым заяўкі, якія не займаліся яшчэ земляробствам, гэта значыць—павінны задавальняцца заявы на атрыманьне ў працоўнае карыстаньне зямлі і яўрэяў—быўшых дробных гандляроў. На камісію, яая ўтвараецца паводле пастановы ЦВК і СНК за 29/X 1924 г., ўскладаецца дапамога і кіраваньне арганізацыяй таварystваў, якія маюць на мэце земляўпарадкаваньне яўрэяў.

Адным з мерапрыемстваў для дапамогі ў атрыманьні яўрэямі зямлі зьяўляецца іх перасяленьне. Дзеля найбольшай дапамогі перасяленцам дазваляецца складаньне перасяленчых таварыстваў на падставе пастановы ЦВК і СНК БССР за 16/IV 1925 г.

Яўрэі, якія на падставе зазначаных вышэй пастаноў ЦВК і СНК БССР маюць права атрымоўваць зямлю ў працоўнае карыстаньне, ня могуць быць пазбаўлены праў быць членамі перасяленчых таварыстваў.

На падставе зазначанага вышэй Народныя Камісарыяты Земляробства і Юстыцыі прапануюць акруговым зямельным аддзелам пры рэгістрацыі перасяленчых таварыстваў кіравацца наступным палажэньнем: працоўныя яўрэі—былыя дробныя саматужнікі, рамесьнікі, гандляры—з атрыманьнем дазволу на перасяленьне, маюць права ўваходзіць у перасяленчыя таварыствы. Увага да арт. 2 пастановы ЦВК і СНК БССР за 17 красавіка 1925 г. (Збор. Зак. за 1925 г. № 21, арт. 198) да яўрэяў зазначаных вышэй груп не адносіцца.

Народны Камісар Земляробства БССР **З. Прышчэпаў**.

Народны Камісар Юстыцыі БССР **М. Сегаль**.

Па НКЗ—23 лютага 1927 г. № 13.
Па НКЮ—2 сакавіка 1927 г. № 20.

---

## 3. Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі і Народнага Камісарыяту Працы БССР

### АБ ПАРАДКУ РАСЬСЛЕДАВАНЬНЯ ПА ГАЗЭТНЫХ ЗАМЕТКАХ І ЗАЯВАХ ВЫПАДКАЎ НАРУШЭНЬНЯЎ ПРАЦОЎНАГА ЗАКАНАДАЎСТВА.

*Акруговым пракурорам і аддзелам і камэрам інспэкцыі працы.*

За апошні час значна павялічыліся заметкі ў мясцовых газэтах аб парушэньнях установамі, прадпрыемствамі, гаспадаркамі і прыватнымі прадпрыемцамі норм працоўнага законадаўства ў частцы, якая датычыцца ўмоў працы, аховы здароўя і жыцьця працоўных, патрабуюць з боку органаў Народнага Камісарыяту Юстыцыі і Народнага Камісарыяту Працы асабліва дбайнага нагляду за законнасьцю правядзеньня ў жыцьцё ўсіх патрабаваньняў працоўнага законадаўства і ўпартай барацьбы з яго парушэньнямі.

Для больш хутчэйшага расьследаваньня заметак і прыцягненьня дзеля гэтай мэты, апрача органаў НКП і рабочых мас, Народны Камісарыят Юстыцыі і Народны Камісарыят Працы прапануюць:

1. Па газэтных заметках, якія зьяўляюцца ў мясцовым і цэнтральным друку па пытаньнях працоўнага законадаўства, акруговы пракурор, альбо яго памочнік па працоўных справах прапануе Інспэктару Працы расьследаваць заметку, што для апошняга зьяўляецца абавязковым і падлягае безадкладнаму выкананьню.

2. Акруговыя пракуроры накіроўваюць да расьследаваньня заметкі, маючыя важнае значэньне і ахопліваючыя значную групу працоўных альбо важнае парушэньне законадаўства аб працы.

3. Заметкі дробнага характару і ўсе астатнія павінны накіроўвацца Фабрычна-Заводзкім Мясцовым Камітэтам, альбо Камісіям па ахове працы пры іх для расьследаваньня і паведамленьня фактаў, паказаных у заметцы.

*Увага.* Аб прыцягненьні да расьследаваньня камісіяй па ахове працы належыць дагаварыцца з Акруговым Прафэсіянальным Бюро, на падставе далучаемай да гэтага пастановы ЦСПСБ.

4. Пры накіраваньні заметкі Інспэкцыі працы альбо Камісіі па ахове працы, акруговая пракуратура павінна паказаць, ці зьяўляецца патрэбным зрабіць дазнаньне альбо абмежавацца прапанаваньнем аб ліквідаваньні адзначанага з паверкай і паведамленьнем у Пракуратуру аб выкананьні.

5. Для правядзеньня паказаных мерапрыемстваў акруговым пракурорам прапануецца склікаць нараду інспэктараў працы і прадстаўнікоў камісій па ахове працы і праінструктаваць іх аб парадку расьследаваньня заметак.

Аб выніках гэтага абежніку адзначайце ў справаздачах.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі
і Пракурора Рэспублікі **Г. Нямытых**.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Р. Алесін**.

Пракурор па працоўных справах пры НКЮ **І. Глезераў**.

15 верасьня 1926 г.
№ 141.

---

Дадатак да п. 3 абежніку НКЮ і
НКП БССР за 15 IX 1926 г. № 141.

## Вынятка з пратаколу пасяджэньня Прэзыдыуму ЦСПСБ за 8/VII—1926 г. № 29.

### СЛУХАЛІ:

П. 233. Даклад Пракурора па працоўных справах (т. Глезераў).

### ПАСТАНАВІЛІ:

З мэтай больш хуткага праходжаньня газэтных заметак, лічыць магчымым прыцягненьне органамі Пракуратуры да высьвятленьня Фабрычна-Заводзкімі Мясцовымі Камітэтамі.

Вынятка з арыгіналам згодна: Справавод НКП **Грамыка**.

---

## 4. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы і Народнага Камісарыяту Аховы Здароўя БССР

„АБ ПЭРЫЯДЫЧНЫХ МЭДЫЦЫНСКІХ АГЛЯДАХ РАБОЧЫХ У ШКОДНЫХ ДЛЯ ЗДАРОЎЯ ВЫТВОРЧАСЬЦЯХ.

I. Для ажыцьцяўленьня сыстэматычнага нагляду за станам здароўя рабочых у шкодных галінах вытворчасьці, прыняцьця патрэбных прафіляктычных захадаў (палепшаньне санітарных умоў працы, перавод на іншую менш шкодную работу і г. д.) і на падставе арт. 143 Код. Зак. аб Працы Народны Камісарыят Працы і Народны Камісарыят Аховы Здароўя БССР пастанаўляюць устанавіць абавязковыя пэрыядычныя мэдыцынскія агляды рабочых у шкодных галінах вытворчасьці і ў першую чаргу ў наступных:

1) У дражджэўнях і піваварнях (рабочыя квасільнага, саладовага, сушыльнага, трэернага і брадзільнага аддзяленьняў); тэрмін агляду—адзін раз у шэсьць месяцаў.

2) У гарбарнях (зольшчыкі, дубільшчыкі, сушыльшчыкі); тэрмін —адзін раз у год.

3) У гутах (рабочыя гуты, майстры, баначнікі і шліфоўшчыкі); тэрмін—адзін раз у шэсьць месяцаў.

4) У шчацінных фабрыках (шчаціншчыкі і працуючыя над конскім воласам); тэрмін—адзін раз у год.

5) На запалкавых фабрыках (парафіншчыкі, макальшчыкі, лябараторныя рабочыя); тэрмін—адзін раз у шэсьць месяцаў.

6) У лёнапрадзільнях (часальшчыкі, рабочыя ватарнага аддзяленьня); тэрмін—адзін раз у год.

7) На махорачных фабрыках (рабочыя крышыльна-вальцавага і расьсевачнага аддзяленьняў); тэрмін—адзін раз у шэсьць месяцаў.

8) На папяровых фабрыках (рабочыя рызьзявога і хлёрнага аддзяленьняў); тэрмін—адзін раз у год.

9) У мэталя-апрацоўваючай прамысловасьці (ліцейшчыкі, травільшчыкі); тэрмін—адзін раз у шэсьць месяцаў.

10) У друкарнях (рабочыя наборнага, лінаціпнага і стэрэатыпнага аддзяленьняў); тэрмін—адзін раз у год.

11) Радыё-тэлеграфістыя; тэрмін—адзін раз у год.

12) Рэнтгэна-працаўнікі—тэрмін адзін раз у шэсьць месяцаў.

13) У лямцавай вытворчасьці (усе рабочыя); тэрмін—адзін раз у год.

14) На абойных фабрыках (рабочыя асноўных цэхаў); тэрмін —адзін раз у год.

15) У ганчарна-кафэльнай вытворчасьці (усе рабочыя); тэрмін—адзін раз у год.

16) У пякарнях (усе рабочыя); тэрмін—адзін раз у шэсьць месяцаў.

17) У тэкстыльна-фарбовачнай вытворчасьці (рабочыя ткацкіх і загатовачных аддзяленьняў); тэрмін—адзін раз у год.

18) Кавалі,—тэрмін—адзін раз у год.

II. Мэдыцынскія агляды заўсёды робяцца, як правіла, у нерабочы час.

*Увага.* Мэдыцынскія агляды могуць рабіцца ў рабочы час толькі па згодзе з адміністрацыяй.

III. Агляды рабочых робяцца лекавымі ўстановамі, якія абслугоўваюць адпаведныя прадпрыемствы. Кіраўніцтва работаю па мэдыцынскіх аглядах ускладаецца на вучастковага санітарнага Інспэктара і мясцовыя органы Народнага Камісарыяту Аховы Здароўя.

*Увага.* Выбар лекавай установы і асабовага складу аглядаючых дактароў робіцца па згодзе Акруговага Аддзелу Аховы Здароўя, санітарнага інспэктара страхавой касы і адпаведнага прафэсіянальнага саюзу. Такім-жа парадкам устанаўляецца падрабязны парадак агляду.

IV. Агляды робяцца па асобнай картцы, распрацаванай Народным Камісарыятам Працы і Народным Камісарыятам Аховы Здароўя БССР. Матар'ялы па зробленых аглядах апрацоўваюцца органамі Народнага Камісарыяту Аховы Здароўя БССР па форме, зацьверджанай Народным Камісарыятам Працы і Народным Камісарыятам Аховы Здароўя БССР і перадаюцца ў Народны Камісарыят Працы БССР ў апрацаваным відзе.

V. Агляды ставяць сваею асноўнаю задачай раньняе выяўленьне пачанаючыхся прафэсіянальных захварэньняў, а таксама выяўленьне такога стану здароўя, пры якім асабліва небясьпечна датычнасьць да вытворчых атрут, або іншых прафэсіянальных шкадлівасьцяй.

Вынікі зробленых мэдыцынскіх аглядаў павінны быць грунтам для работы органаў Народнага Камісарыяту Аховы Здароўя ў галіне дачы ўсіх неабходных відаў мэдыцынскай дапамогі і органаў Народнага Камісарыяту Працы па прыняцьцю неабходных мерапрыемстваў для палепшаньня санітарна-тэхнічных умоў працы.

Ніякія спраўкі аб выніках агляду паасобных асоб як рабочым, так і гаспадарчым органам або работадацелям не выдаюцца.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Р. Алесін**.

Народны Камісар Аховы Здароўя БССР **М. Барсукоў**.

Узгоднена з ЦСПСБ: Нам. Загадчыка
Тарыфна-Эканамічнага Аддзелу ЦСПСБ **З. Каган**.

20 сьнежня 1926 г.
№ 26.

---

Дадатак да п. 4 пастановы Народнага Камісарыяту Працы і Народнага Камісарыяту Аховы Здароўя БССР за 20/XII 1926 г. № 26.

## Карта для пэрыядычных мэдыцынскіх аглядаў рабочых у шкодных для здароўя прадпрыемствах.

Назва лекавай установы, якою робіцца агляд..........

..........дзень..........месяц..........год.

Адрас і назва вытворчасьці..........

Характар вытворчасьці..........

| | Першы агляд | Другі агляд | Трэці агляд | Чацьвёрты агляд. |
|---|---|---|---|---|
| 1. Прозьвішча, імя і імя па бацьку рабочага.......... | | | | |
| 2. Узрост.......... пол.......... нацыянальнасьць.......... | | | | |
| 3. Месца пражываньня (адрас).......... | | | | |
| 4. Назва цэху, майстэрні.......... | | | | |
| 5. Агульны прафэсіянальны стаж.......... | | | | |
| 6. Стаж даннай прафэсіі.......... .......... | | | | |
| 7. Дзённая, вячэрняя, або начная праца.......... | | | | |
| 8. Кароткія анамнэстычныя зьвесткі і перанесеныя хваробы.......... | | | | |
| 9. Суб'ектыўныя зьвесткі.......... | | | | |
| 10. Склад цела.......... Колер цела.......... Скура, сьлізыстыя ткані | | | | |
| 11. Якое харчаваньне.......... | | | | |
| 12. Костная сыстэма.......... | | | | |
| 13. Харчавыя органы.......... | | | | |
| 14. Дыхальныя органы.......... | | | | |

15. Органы руху крыві і лімфатычная сыстэма ..........

16. Нэрвовая і псыхічная сфэра ..........

17. Органы зроку, слуху і інш. органы пачуцьця ..........

18. Заключэньне камісіі:
   а) стан працаздольнасьці, адпаведнасьць агляда-емага даннай прафэсіі
   б) у якой лекавай або сацыяльнай дапамозе мае патрэбнасьць ..........
   в) ці патрэбна перамена прафэсіі і перавод на іншую і якую работу
   г) ці ёсьць патрэбнасьць у накіраваньні на Доктарска-Кантрольную Камісію або камісію па інваліднасьці ..........

Прозьвішчы дактароў, рабіўшых агляд.

ПОДПІСЫ:

---

## 5. Інструкцыя Народнага Камісарыяту Працы і Народнага Камісарыяту Асьветы БССР

АБ ПАРАДКУ ПАДЛІКУ І РАЗЬМЕРКАВАНЬНЯ МЕСЦ ПРАКТЫКІ СТУДЭНТАЎ ВЫШЭЙШЫХ НАВУЧАЛЬНЫХ УСТАНОЎ І ТЭХНІКУМАЎ І МЕСЦ АДБЫВАНЬНЯ СТАЖУ АСОБАМІ, ЯКІЯ СКОНЧАЛІ ПОЎНЫ КУРС ПАКАЗАНЫХ НАВУЧАЛЬНЫХ УСТАНОЎ

У выкананьне пастановы СНК БССР за 7/XII—1926 г. (З. З. БССР № 51, арт. 191) і на падставе арт 28 Інструкцыі Народнага Камісарыту Працы СССР за 26/XI—1926 г. № 2521145 „Аб парадку дачы месц практыкі студэнтам унівэрсытэтаў і тэхнікумаў і месц адбываньня стажу асобам, якія скончылі поўны курс гэтых навучальных устаноў“, Народныя Камісарыяты Працы і Асьветы ўстанаўляюць наступныя правілы падлік і разьмеркаваньня месц практыкі і стажу:

### Агульныя палажэньні аб парадку адбываньня практыкі і стажу,

1. Месцы для адбываньня практыкі даюцца студэнтам усіх унівэрсытэтаў, інстытутаў і тэхнікумаў БССР, а таксама і накіраваным для практыкі і стажу ў прадпрыемствы і ўстановы БССР Агульнасаюзнай Міжведамственнай Камісіяй.

2. Месцы для адбываньня стажу даюцца асобам, якія скончылі поўны курс унівэрсытэтаў, інстытутаў і тэхнікумаў БССР, а таксама і накіраваным для адбываньня стажу ў БССР Агульнасаюзнай Міжведамственнай Камісіяй.

3. Практыка адбываецца на працягу ўсяго году і мае галоўнай мэтай замацаваньне здабытых тэорэтычных ведаў і практычнае азнаямленьне вучняў з працэсам вытворчасьці праз асабісты іх удзел у гэтым працэсе.

4. Усе накіраваныя на практыкту студэнты Вышэйшых Навучальных Установ і тэхнікумаў павінны быць наперад інструктаваны ў сваіх Вышэйшых Навучальных Установах і тэхнікумах аб тэй працы, якую ім патрэбна будзе выконваць на мясцох.

Гэта інструктаваньне павінна рабіцца ў форме спэцыяльных дакладаў і складаньня падрабязных праграм практыкі, узгадняючы іх з адпаведнымі гаспадарчымі органамі.

5. У тых выпадках, калі лік студэнтаў, накіраваных на практыку перавышае колькасьць трох асоб на одно прадпрыемства альбо ўстанову, практыканты абіраюць з свайго ліку старасту. Стараста з'яўляецца прадстаўніком групы ў перагаворах з адміністрацыяй прадпрыемстваў па ўсіх тых навучальна-тэхнічных пытаньнях, якія датычацца практыкантаў.

Калі ў прадпрыемствах будзе шмат практыкантаў з розных Вышэйшых Навучальных Установ і тэхнікумаў, то практыканты абіраюць з свайго ліку агульнага старасту.

6. На працягу практыкі практыканты павінны весьці дзеньнікі тым работам, якія імі будуць выконвацца.

Гэтыя дзеньнікі практыкантаў па сканчэньні практыкі павінны разглядацца і падпісавцца кіраўніком работы практыкантаў у прадпрыемствах і ўстановах (майстрам, інжэнэрам і г. д.).

7. У рабочых дзеньніках павінны быць паказаны зацьверджаныя адміністрацыяй наступныя зьвесткі:

а) тэрмін, які студэнт прабыў на практыцы, б) якую работу выконваў, в) ступень самостойнасьці ў рабоце і г. д.

*Увага.* Пажадана таксама падача одзыву мясцовай прафсаюзнай організацыі аб рабоце практыкантаў.

8. Па падставе запісаў у дзеньніку аб выкананьні ўстаноўленых праграм адпаведных Вышэйшых Навучальных Установ альбо тэхнікумаў, практыкант, па сканчэньні тэрміну практыкі, павінен скласьці справаздачу аб сваёй рабоце, якая разам з дзеньнікам і іншымі матар'яламі па практыцы перадаецца па прыбыцьці ў Вышэйшую Навучальную Установу альбо тэхнікум адпаведнамуфакультэту.

9. Праўленьні Вышэйшых Навучальных Установ альбо Пэдагагічныя Саветы тэхнікумаў па сканчэньні практыкі павінны падаць у Галоўную Ўправу Прафэсіянальнае Асьветы справаздачу аб правядзеньні практыкі па форме, якая складзена Галоўнай Управай Прафэсіянальнае Асьветы і якая своечасова ім паведамляецца.

10. Прадпрыемствы і ўстановы павінны назначаць з ліку свайго адміністрацыйна-тэхнічнага пэрсаналу асобу для кіраваньня работаю практыкантаў.

11. Як агульнае правіла, студэнты накіроўваюцца на практыку на 4 м-цы, а на стаж—на адзін год.

*Увага.* Вызначаны тэрмін можа быць скарочаны, замест чаго можа быць павялічаны лік практыкантаў ці стажораў, з тым

аднак, каб вызначаная для прадпрыемства колькасьць чалавека-месяцаў не павялічвалася, але са згоды гаспадарчых органоў.

## Парадак падліку месц практыкі і стажу.

12. Усе Народныя Камісарыяты, а такеама дзяржаўныя, грамадзкія, каапэрацыйныя і прыватныя прадпрыемствы, установы і гаспадаркі павінны не пазьней 1-га сьнежня штогодна падаваць ў Міжведамственную Рэспубліканскую Камісію па практыцы і стажу пры Народным Камісарыяце Працы БССР праз свае Цэнтральныя органы зьвесткі аб мясцох практыкі і стажу па далучанай да гэтай інструкцыі форме.

Цэнтральныя органы павінны сваечасова паклапаціцца атрыманьнем і складаньнем патрэбных для Камісіі зьвестак па ўсіх падпарадкаваных ім прадпрыемствах і ўстановах.

Зьвесткі падаюцца паасобна аб мясцох практыкі і паасобна аб мясцох стажу.

*Увага.* Як правіла, прадпрыемствы і ўстановы ў пасылаемых камісіі зьвестках аб мясцох практыкі і стажу паказваюць тыя спэцыяльнасьці, якія з'яўляюцца асноўнымі па іх вытворчасьці і згодна намэнклятуры, зацьверджанай Агульнасаюзнай Міжведамстнвеннай Камісіяй і агалошанай ў „Изв. НКТ СССР“ № 43-44 1926 г.

13. Галоўная Ўправа Прафэсіянальнае Асьветы к паказанаму ў п. 12 тэрміну пасылае ў Рэспубліканскую Міжведамственную Камісію па практыцы і стажу пры Народным Камісарыяце Працы БССР зьвесткі аб колькасьці тых студэнтаў Вышэйшых Навучальных Установ і Тэхнікумаў, якіх патрэбна будзе разьмеркаваць на практыку і стаж.

Гэтыя зьветскі павінны быць атрыманы ад Вышэйшых Навучальных Установаў і Тэхнікумаў і прысланы ў Рэспубліканскую Міжведамственную Камісію па належных формах і адпаведных спэцыяльнасьцях, якія паказаны ў намэнклятуры, зацьверджанай Агульнасаюзнай Міжведамственнай Камісіяй па разьмеркаваньні практыкантаў і стажораў („Изв. Народного Камиссариата Труда СССР“ № 43-44).

14. Прадпрыемствы і ўстановы, якія пажадаюць скарыстаць на практыцы альбо стажу сваіх стыпэндыятаў з ліку студэнтаў таго альбо іншага ўнівэрсытэту і тэхнікуму, альбо з адбываўшых у іх практыку ў папярэднія гады, паведамляюць аб гэтым у Рэспубліканскую Міжведамственную Камісію адначасова з адасланьнем зьвестак аб мясцох практыкі і стажу.

15. Месцы практыкі і стажу хоць і занятыя вучнямі альбо скончыўшымі навучальныя ўстановы, але запоўненыя не ў парадку ўстаноўленым гэтай інструкцыяй і пры гэтым без асобнага дазволу Рэспубліканскай Міжведамственнай Камісіі, не залічваюцца ў норму месц практыкі альбо стажу для даннага прадпрыемства, альбо ўстановы.

## Парадак разьмеркаваньня месц практыкі і стажу.

16. Міжведамственная Рэспубліканская Камісія па практыцы і стажу пры Народным Камісарыяце Працы БССР па атрыманьні ад дзяржаўных, гаспадарчых, каапэрацыйных і прыватных органаў зьве-

стак на месцы практыкі і стажу, а таксама і аналёгічных заявак ад Вышэйшых Навучальных Установ і тэхнікумаў праз Галоўную Ўправу Прафэсіянальнае Асьветы, выдае нарады ў двух паасобніках: адзін тым цэнтральным установам альбо прадпрыемствам, па якіх будуць разьмяркоўвацца практыканты і стажоры, а другі (талён нараду)—Галоўной Управе Прафэсіянальнае Асьветы.

Нарады на месцы практыкі і стажу ў прадпрыемствы, якія знаходзяцца ў другіх саюзных рэспубліках, і якія атрымоўваюцца ад Агульнасаюзнай Камісіі па практыцы і стажу пры Народным Камісарыяце Працы СССР перадаюцца ў Галоўную Управу Прафэсіянальнае Асьветы.

17. Галоўная Управа Прафэсіянальнае Асьветы па атрыманьні ад Міжведамственнай Рэспубліканскай Камісіі па практыцы і стажу талёну нараду на вядомую колькасьць месц практыкі і стажу, разьмяркоўвае іх па паасобных Вышэйшых Навучальных Установах і Тэхнікумах.

*Увага.* Галоўная Управа Прафэсіянальнае Асьветы пад сваю адказнасьць разьмяркоўвае месцы практыкі і стажу. Кантроль за разьмеркаваньнем Галоўнай Управай Прафэсіянальнае Асьветы месц практыкі і стажу ўскладаецца на Міжведамственную Камісію па практыцы і стажу Народнага Камісарыяту Працы БССР.

18. Пасьля разьмеркаваньня месц практыкі і стажу Галоўная Ўправа Прафэсіянальнае Асьветы выдае нарады Вышэйшым Навучальным Установам і тэхнікумам для пэрсанальнага прызначэньня студэнтаў.

19. Камандыроўка на практыку і стаж робіцца беспасрэдна самімі Вышэйшымі Навучальнымі Ўстановамі і Тэхнікумамі ў парадку, прадугледжаным п. 11 інструкцыі Народнага Камісарыяту Працы СССР за 26 лістапада 1926 г. № 252/145 („Изв. Народного Комиссариата Труда СССР“ № 43—44).

*Увага.* У асобных выпадках камандыроўка на практыку і стаж можа выдавацца і беспасрэдна Галоўнай Управай Прафэсіянальнае Асьветы. Пры гэтым адсутнасьць на камандыроўцы візы тых органаў, якім падпарадкавана даннае прадпрыемства альбо ўстанова, не павінна быць прычынай для адмовы ад прыёму практыкантаў альбо стажораў.

20. Разьмеркаваньне месц практыкі і стажу паміж студэнтамі робяць арганізованыя пры Вышэйшых Навучальных Установах і Тэхнікумах факультэкція і Міжфакультэцкія Камісіі па практыцы. Гэтыя Камісіі арганізуюцца Праўленьнямі Вышэйшых Навучальных Установ і Пэдагагічн. Саветамі Тэхнікумаў і існуюць на падставе асобных Палажэньняў, якія выдаюцца Галоўнаю Управай Прафэсіянальнае Асьветы. Пры гэтым пэрсанальная пасылка студэнтаў на практыку і стаж робіцца Камісіямі ў парадку старшынства курсаў і акадэмічнае пасьпяваемасьці.

21. На стаж накіроўваюцца пасьля сканчэньня поўнага курсу Вышэйшых Навучальных Установ альбо тэхнікумаў, на практыку—ў парадку старшынства 5-ы, 4-ы і 3-ці курсы.

БССР

Студэнты першага курсу на практыку не пасылаюцца. Студэнты 2-га курсу на практыку пасылаюцца ў выпадках патрэбы, калі гэта патрабуецца навучальным плянам і кожны раз з дазволу Галоўнай Управы Прафэсіянальнае Асьветы.

22. Асобы, якія да гэтага часу былі накіраваны на практыку альбо стаж у парадку раней установленых законаў, канчаюць сваю практыку альбо стаж у парадку установлены гэтымі законамі.

23. Галоўпрафасьветы праз месяц па атрыманьні нараду на месцы практыкі і стажу паведамляе Рэспубліканскую Міжведамственную Камісію па практыцы і стажу пры Н. К. Працы БССР аб колькасьці нескарыстаных месц стажу і месц практыкі, якіх спэцыяльнасьцяй, прычыны гэтага і па якіх прадпрыемствах, альбо установах.

24. Паводле арт. 8 пастановы СНК СССР за 14 чэрвеня 1926 г. (Зб. Зак. СССР 1926 г. № 44, арт. 320) усе прадпрыемствы і ўстановы, якім накіроўваюцца ў парадку п. п. 1 і 5 тае-ж пастановы СНК СССР практыканты і стажоры, павінны аплачваць працу гэтых асоб за ўвесь час адбываньня імі практыкі або стажу па выконваемай імі працы, але ня ніжэй 6 разраду існуючай у гэтым прадпрыемстве ці ўстанове тарыфнае сеткі; у тых установах, дзе ўстаноўлена дзяржаўнае нармаваньне зарплаты—па стаўках, прадугледжаных па каштарысу; ва ўстановах, дзе па згодзе з адпаведнымі прафсаюзамі ўстаноўлены сталыя аклады—ня ніжэй 35 руб. ў месяц у Менску, Віцебску і Гомелі і 32 р. ў месяц—у астатніх мясцовасьцях БССР.

25. Адносна іншых пытаньняў, маючых сувязь з практыкай і стажам, як: аплата праезду, нормы пасылкі па прадпрыемствах і ўстановах практыкантаў і стажораў і іншых, належыць кіравацца Пастановай СНК СССР за 14/VI—1926 г. і інструкцыяй Н.К.Працы СССР за 26/XI 1926 г. № 252/145 („Изв. НКТ“ № 43—44).

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Р. Алесін**.

Нам. Народнага Камісара Асьветы БССР **П. Валасевіч**.

Загадчык Аддзелу Рынку Працы **С. Мышалаў**.

Узгоднена:
з ЦСПСБ: Член Прэзыдыуму і Загадчык Культаддзелу **Г. Конанаў**.
з ВСНГ БССР: за Старшыню ВСНГ БССР **К. Арндт**.

8 сакавіка 1927 г.
№ 42.

ДАДАТАК № 2 да арт. 13 Інструкцыі НКП і НК Асьветы БССР за 8 сакавіка 1927 г. № 42.

Ведамасьць падаецца Галоўпрафасьветы ў Рэспубліканскую Міжведамственную Камісію пры НКП БССР штогод не пазьней 1/XII.

# ВЕДАМАСЬЦЬ

на месцы стажу як у агульнасаюзных прадпрыемствах і ўстановах, так і Рэспубліканскіх на 192   год для ..............................

(назва навучальнай установы).

| Патрэбныя для ВНУ альбо тэхнікуму месцы стажу ў агульнасаюзных прадпрыемствах і ўстановах | | Патрэбныя для ВНУ'ы альбо тэхнікуму месцы стажу у прадпрыемствах і установах БССР | Агульны лік студэнтаў, якія канчаюць ВНУ'ы і Тэхнікумы і якіх трэба будзе разьмеркаваць на месцы стажу па кожнай спэцыяльнасьці, паказанай у графе 1-й | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Па якой спэцыяльнасьці | Лік | Лік | Колькі асоб канчае | Назва навучальнай установы, факультэту, аддзялен. і г. д. | Тэрмін сканчэньня (паказаць дзень і м-ц) |
| | | | | | |

Подпіс навучальнай установы.

ДАДАТАК № 2 да арт. 13 Інструкцыі НКП і НК Асьветы БССР за 8 сакавіка 1927 году № 42.

Ведамасьць падаецца Галоўпрафасьветы ў Рэспубліканскую Міжведамственную Камісію пры НКП БССР штогод не пазьней 1/XII.

# ВЕДАМАСЬЦЬ

на месцы практыкі як у агульнасаюзных прадпрыемствах, так і ў Рэспубліканскіх на 192   год для ..............................

(Назва навучальнай установы).

| Патрэбныя для ВНУ альбо Тэхнікуму месцы практыкі ў агульнасаюзных прадпрыемствах і ўстановах | | Патрэбныя ВНУ'е альбо Тэхнікуму месцы практыкі ва установах і прадпрыемствах БССР | Агульны лік студэнтаў ВНУ і Тэхнікуму, якія трэба будзе разьмеркаваць на месцы практыкі з паказаньнем колькасьці асоб па курсах і спэцыяльнасьцях па кожным навучальным факультэце паасобна |
|---|---|---|---|
| Па якой спэцыяльнасьці | Лік | Лік | |
| | | | |

Подпіс навучальнай установы.

# ВЕДА

аб ліку месц стажу для скончыўшых Вышэйшыя Навучальныя
(Назва і адрас дзяржаўнай, гаспадарчай,

| Назва цэнтральнага, дзяржаўнага, альбо гаспадарчага органу і г. д. і яго мясцовых органаў | Агульны лік рабочых і служачых установ і прадпрыемств. паказаных у 1 графе | Лік месц стажу, якія павінны быць запоўнены ў прадпрыем., альбо установе і г. д. згодна норм, прадуглед. пастанов. СНК СССР за 14/VI—1926 г. 2,5 проц. для ўстаноў і 1,25 проц.—для прадпрыемстваў |
|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 |
| | | |

(М. П.) Подпіс дырэктара альбо загадчыка прадпрыемства альбо ўстановы

„ “ дня..........................м-ца 192 г.

## ПАРАДАК ЗАПАЎН

У графе 1-й паказваецца паасобна цэнтральнае прадпрыемства, альбо ўстанова, а пасьля ўсе падпарадкаваныя яму ўстановы і прадпрыемствы.

У графе 2-й павінен быць паказаны агульны лік рабочых і служачых установы альбо прадпрыемства па данных вытворчай праграмы на 1-ы квартал гаспадарчага году, за які падаюцца зьвесткі. Калі лік рабоч. і служ. на 1/XII будзе перавышаць данныя вытворч. праграмы, зьвесткі аб ліку рабочых і служачых павінны быць прадстаўлены ў разьмеры сярэдняга ліку за ўвесь гаспадарчы год. У прадпрыемствах сэзоннага характару, а таксама ў прадпрыемствах будаўнічай прамысловасьці паказваецца той сярэдні лік рабочых і служачых, які будзе заняты ў сэзонны пэрыяд па данных вытворчай праграмы.

У графе 3-й паказваецца колькасьць месц стажу, вылічаная ва установах—у 2,5 проц. у адносінах да ліку занятых рабочых і служачых, а ў прадпрыемствах—у 1,25 проц.

У графах 4, 5, 6, 7 и 8 паказваюцца тыя спэцыяльнасьці, па якіх тая або іншая ўстанова, альбо прадпрыемства жадае скарыстаць у сябе тых стажораў, якія будуць ім накіраваны згодна проц. нормы.

Дадатак № 1 Інструкцыі Н.К. Працы і НК Асьветы БССР за 8 сакавіка 1927 г. № 42.

*Ведамасьць падаецца прадпрыемствамі, установамі і Народнымі Камісарыятамі ў НКП штогод не пазьней 1/XII.*

# МАСЬЦЬ

Установы і Тэхнікумы на 192 г.
альбо грамадзкай арганізацы)

| Па якіх спэцыяльнасьцях патрабуюцца для ўстановы альбо прадпрыемства стажоры і ў якім ліку па кожнай спэцыяльнасьці | | | | | Куды належыць накіроўваць стажораў для адбываньня стажу (паказаць адрас) | У В А Г А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |
| | | | | | | |

ЕНЬНЯ ФОРМЫ.

Пры гэтым спэцыяльнасьці паказваюцца адпаведна намэнклятуры спэцыяльнасьцяй, пацьверджанай Агульнасаюзнай Камісіяй у якасьці дадатку да Інструкцыі НКП СССР за 26/XI—26 г. № 252/135 („Изв. НКТ СССР“ № 43—44). Прадпрыемствы і ўстановы не павінны абмяжоўвацца толькі паказанымі 4-я графамі, бо ў цэлым шэрагу прадпрыемстваў і ўстаноў спэцыяльнасьцяй, па якіх мяркуецца скарыстаць стажораў можа быць шмат, а загэтым установы і прадпрыемствы могуць павялічваць па свайму погляду паказаны лік граф, у залежнасьці ад спэцыяльнасьцяй.

Паказваемая колькасьць месц стажу ў гр. гр. 4, 5, 6, 7 і 8 павінна адпавядаць колькасьці месц, паказаных у графе 3-й.

У графе 9-й паказваецца адрас кожнага паасобнага прадпрыемства, альбо ўстановы (пералічаных у гр. 1-й) куды належыць накіроўваць стажораў для адбыцьця стажу.

У графе 10-й (увага) прадпрыемствы і ўстановы могуць паказваць усе дадатковыя зьвесткі, маючыя сувязь з адбываньнем стажу і ўсе свае пажаданьні.

# ВЕДА

аб ліку месц практыкі для студэнтаў Вышэйшых Навучальных

........................................(Назва ўстановы альбо прадпрыемства і адрас)

| Назва Цэнтральнага дзяржаўн., альбо гаспадарчага органу і г. д. і яго мясцовых органаў, альбо падпарадкаваных ім устаноў | Агульны лік рабочых і служачых у прадпрыемствах і ўстановах паказан. у гр. 1-й | Лік платных месц практыкі, якія павінны быць замешчаны ў гэтым прадпрыемстве, установе і г. д. згодна норм, прадугледжаных пастановай СНК СССР за 14/VI—1926 г. (2,5% для устаноў, 1,25% для прадпрыемств.). | Лік месц бясплатнай практыкі. |
|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 |
| | | | |

(м. п.) Подпіс дырэктра альбо загадчыка прадпрыемства, установы

„ “ дня .............................. м-ца 192 г.

## ПАРАДАК ЗАПАЎНЕНЬЯ ГЭТАЙ ТАБЛІЦЫ:

1) У графе 1-й паказваецца паасобна: цэнтральная ўстанова альбо прадпрыёмства, а пасьля ўсе падпарадкаваныя ім установы і прадпрыемствы.

2) У графе 2-й павінны быць паказаны агульны лік рабочых і служачых установы, альбо прадпрыемства па данных вытворчай праграмы на 1-ы квартал гаспадарчага году, за які прадстаўляюцца зьвесткі. У выпадку, калі лік рабочых і служачых на 1-ае сьнежня будзе перавышаць данныя вытворчай праграмы, зьвесткі аб ліку рабочых і служачых павінны быць прадстаўлены ў разьмеры сярэдняга ліку за ўвесь вытворчы пэрыяд. У прадпрыемствах сэзоннага характару, а таксама і прадпрыемствах будаўнічнай прамысловасьці паказваецца тая сярэдняя колькасьць рабочых і служачых, якая павінна быць занята ў будучым годзе па данных вытворчай праграмы.

3) У графе 3-й паказваецца лік месц практыкі, вылічаны ў прадпрыемствах у 1,25 проц. у адносінах да ліку занятых служачых і рабочых, а ва ўстановах 2,5 проц.

4) У графе 4-й паказваецца лік месц бясплатнай практыкі, які можа быць дадзен разам з платнай практыкай.

5) У графах 5, 6, 7 и 8 паказваюцца тыя спэцыяльнасьці, па якіх тая або іншая ўстанова, альбо прадпрыемства жадае скарыстаць у сябе тых практыкантаў, якія будуць ім накіраваны згодна прац.

Дадатак № 1 да арт. 12 Інструкцыі НК Працы і НК АСЬВЕТЫ БССР за 8 сакавіка 1927 г. № 42.

*Ведамасьць падаецца прадпрыемствамі, установамі і Наркаматамі ў НКП БССР штогод не пазьней 1 сьнежня.*

# МАСЬЦЬ

Установ і Тэхнікумаў на 192 г. ..............................

..............................

| Па якіх спэцыяльнасьцях патрабуюцца для гэтага прадпрыемства, установы і г. д. платныя і бясплатныя практыкі і ў якім ліку па кожнай спэцыяльнасьці | | | | Куды належыць накіроўваць практыкантаў для адбываньня практыкі (паказаць адрас). | Каго жадае скарыстаць прадпрыемства, установа ў сябе на практыцы з ліку сваіх стыпэндыятаў, альбо іншых студэнтаў. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | Прозьвішча імя і імя па бацьку | Назва навучальн. установы, факультэту і курсу | Спэцыяльнасьць |
| 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| | | | | | | | |

нормы, прычым спэцыяльнасьці паказваюцца паводле намэнклятуры спэцыяльнасьцяй, зацьверджанай АгульнасаюзнайКамісіяй у якасьці дадатку да Інструкцыі НКП СССР за 26-XI –1926 г. № 252/145 („Изв. НКТ СССР“ № 43-44). Прадпрыемствы і ўстановы не павінны абмяжоўвацца толькі паказанымі 4-я графамі, бо ў цэлым шэрагу прадпрыемстваў і ўстаноў спэцыяльнасьцяй, па якіх мяркуецца скарыстаць практыкантаў можа быць шмат, а пагэтаму ўстановы і прадпрыемствы могуць павялічваць па свайму погляду паказаны лік граф у залежнасьці ад спэцыяльнасьцяй. Паказваемая колькасьць месц практыкі ў графах 5, 6, 7 і 8 павінна адпавядаць колькасьці месц, паказаных у гр. 3-й.

6) У гр. 9-й паказваецца адрас кожнага паасобнага прадпрыемства або ўстановы (пералічаных у гр. 1), куды належыць накіроўваць практыкантаў для адбыцьця практыкі.

7) У гр. 10 паказваюцца тыя асобы з студэнтаў ВНУ-оў і Тэхнікумаў, якіх прадпрыемства і ўстанова жадае скарыстаць у сябе на практыцы, прычым дасканальна паказваецца з якога курсу і якой спэцыяльнасьці і якой навучальнай установы.

8) У графе 11-й (увага) установы і прадпрыемствы могуць паказваць усе дапаўняльныя моманты маючыя сувязь з адбываньнем практыкі.

## 6. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

АБ ЗАЦЬВЕРДЖАНЬНІ СЬПІСУ СЭЗОННЫХ РАБОТ У СЕЛЬСКАЙ І КАМУНАЛЬНАЙ ГАСПАДАРКАХ.

На падставе ўвагі да арт. 1-га пастановы ЦВК і СНК СССР за 4 чэрвеня 1926 г. „Аб умовах працы на сэзонных работах“ (Збор Зак. СССР за 1926 г. № 40, арт. 290) Народны Камісарыят Працы БССР па ўзгадненьні з Цэнтральным Саветам Прафэсіянальных Саюзаў Беларусі пастанаўляе зацьвердзіць наступны сьпіс сэзонных работ, на якія пашыраецца дзейнасьць пастановы ЦВК і СНК СССР за 4/VI 1926 г.

### Сьпіс сэзонных работ:

1. Сельска-гаспадарчыя работы:

а) мэліарацыйныя,

б) сяўба ярыны, падрыхтоўка поля пад зімовыя пасевы (папар); збор з поля ярыны і зімовых пасеваў, сяўба на зіму; збор з сенажацяй, падрыхтоўка глебы пад агародныя культуры, сяўба, пасадка і збор гародніны і садавіны, ахова садоў, сенажацяй і палёў.

2. Работы па камунальнай гаспадарцы:

Пляніроўка вуліц, папраўка праездаў і дарог, брукоўка, пракладка тратуараў, капаньне канаў, папраўка мастоў, работа ў гарадзкіх бульварах і парках, пасадка дрэў, выраб бэтонных матар‘ялаў (па-за заводамі, якія прыстасаваны для работы цэлы год); загатоўка будаўнічых матар‘ялаў (каменьняў, чвыру, гліны) асфальтавыя работы, умацаваньне берагоў рэчак, равоў і выраўноўваньне рэчышчаў.

*Увага* 1. Паказаны сьпіс не пашыраецца на рабочых, занятых на работах больш шасьці месяцаў і на штатных рабочых, якія працуюць на паказаных у сьпісе работах.

*Увага* 2. Па іншых сэзонных работах, якія не паказаны ў гэтым сьпісе належыць кіравацца пералікамі работ, выдаваемымі НКП СССР.

*Увага* 3. Паказаны сьпіс не пашыраецца на сялянскія гаспадаркі, на якія пашыраюцца „Часовыя правілы аб умовах ужываньня дапаможнае наёмнае працы ў сялянскіх гаспадарках за 18/IV 1925 г.“ (З. З. СССР за 1925 г. № 26, арт. 183).

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Р. Алесін.**

Заг. Агульн. Аддзелу НКП БССР **Я. Акулаў.**

Узгоднена з ЦСПСБ: Нам. Загадчыка АТЭ ЦСПСБ **З. Каган.**

11 сакавіка 1927 г.
№ 43.

---

## 7. Тлумачэньне Народнага Камісарыяту Працы БССР

АБ АПЛАЦЕ РАБОЧЫХ І СЛУЖАЧЫХ, ЯКІЯ ЗНАХОДЗЯЦЦА Ў ДОЎГАТЭРМІНОВЫМ ВОДПУСКУ АБО ЗАПАСЕ І ПРЫЦЯГНУТЫ Ў ЯКАСЬЦІ ІНСТРУКТАРОЎ ДЛЯ ПАЗАВАЙСКОВАЙ ПАДРЫХТОЎКІ.

Паводле тлумачэньня Народнага Камісарыяту Працы і Рэвалюцыйнага Ваеннага Савету СССР за 16/XI—1925 г. („Известия Н. К. Труда СССР" 1925 г. № 46) рабочыя і служачыя, якія знаходзяцца ў доўгатэрміновым водпуску або ў запасе і прыцягнуты ў якасьці інструктароў для пазавайсковай падрыхтоўкі вайсковых служачых і дапрызыўнікаў—захоўваюць свае пасады і сярэдні заработак па месцу службы або работы на ўвесь час пазавайсковай падрыхотоўкі.

У некаторых выпадках ваеннае ведамства замест харчоў, кватэры і іншага ўтрыманьня выдае прыцягнутым для пазавайсковай падрыхтоўкі інструктаром грошы за час іх працы ў вайсковых частках.

З гэтае прычыны Народны Камісарыят Працы БССР растлумачвае: у тых выпадках, калі ваеннае ведамства выплачвае прыцягнутым з запасу або доўгатэрміновага водпуску інструктаром грошы за час пазавайсковай падрыхтоўкі замест харчоў, кватэры і іншага ўтрыманьня, установы, прадпрыемствы і гаспадаркі ня могуць вылічваць з сярэдняга заработку рабочых і служачых тую частку яго, якая адпавядае суме, атрыманай інструктарам у вайсковай часьці.

За рабочымі і служачымі, прыцягнутымі ў якасьці інструктароў для пазавайсковай падрыхтоўкі павінен захоўвацца сярэдні заработак іх па месцу работы або службы.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Р. Алесін**.

За Заг. Тарыфна-Канфліктнага Аддзелу НКП **С. Мышалаў**.

За Загадчыка Агульнага Аддзелу НКП **Т. Жылінскі**.

Узгоднена з Упаўнаважаным Н. К. па Ваенных і Марскіх Справах пры СНК БССР:

Нам. Упаўнаважанага Народнага Камісарыяту
па Ваенных і Марскіх Справах СССР
пры Ўрадзе БССР **А. Лакціонаў**.

15 сакавіка 1927 г.
№ 44.

---

## 8. Тлумачэньне Народнага Камісарыяту Працы БССР

АБ ВЫЛІЧЭНЬНІ КВАТЭРНАЕ ПЛАТЫ ДЛЯ АДКАЗНЫХ ПАЛІТЫЧНЫХ ПРАЦАЎНІКОЎ, ПРАЦУЮЧЫХ ВА ЎСТАНОВАХ, ЯКІЯ ЗНАХОДЗЯЦЦА НА ДЗЯРЖАЎНЫМ БЮДЖЭЦЕ.

На падставе арт. 8 пастановы СНК БССР за 14 ліпеня 1926 г. „Аб дзяржаўным нармаваньні зарплаты служачых, знаходзячыхся на дзяржаўным бюджэце" (З. Зак. БССР 1926 г. № 33, арт. 126) Народны Камісарыят Працы БССР растлумачвае:

1. Пры правядзеньні дзяржаўнага нармаваньня зарплаты стаўкі адказных палітычных працаўнікоў захаваны з некаторым толькі акругленьнем іх за гэтым; на падставе арт. 4 пастановы ЦВК і СНК БССР за 23/X—1926 г. „Аб аплаце жылых памяшканьняў у гарадох

БССР“ (Зб. Зак. БССР 1926 г. № 44, арт. 165) пры вылічэньні кватэрнае платы з служачых, працуючых ва ўстановах, якія знаходзяцца на дзяржаўным бюджэце і пералічаных ў арт. 2 гэтага тлумачэньня, не бярэцца пад увагу процант дабаўкі і кватэрная плата з іх вылічаецца толькі з разьліку асноўнага акладу, гэта значыць для асоб, якія аднесены да 17 разр. тарыфнае сеткі—з разьліку 122 р., да 16 разр.—109 р. 60 к., да 15 разр.—102 р. 17 кап., да 14 разр.—94 р. 55 к.—у Менску і Віцебску, а ў іншых акруговых гарадох (апрача Гомелю і Рэчыцы) гэтыя стаўкі зьніжаюцца на 10%.

2. Гэтае тлумачэньне пашыраецца на наступныя групы адказных палітычных працаўнікоў:

### 17 разрад.

Члены Прэзыдыуму ЦВК БССР, Народныя Камісары, Нам. Народн. Камісараў, Члены Калегіі Народн. Камісарыятаў і Члены Прэзыдыуму ВСНГ, Дзяржпляну і члены КЗП БССР, Начальнікі функцыянальных Кіраўніцтваў і Загадчыкі асноў'нымі функцыянальнымі Аддзеламі Нар. Камісарыятаў і ўстаноў рэспубліканскага значэньня, Старшыні Найвышэйшага Суду і Старш. Калегій Найвышэйшага Суду, Памоц. Пракурора Рэспублікі і Памоц. Пракурора Рэспублікі пры Найвышэйшым Судзе.

### 16 разрад.

Нам. Начальнікаў Кіраўніцтваў, Нам. Загадч. асноўнымі функцыянальнымі Аддзеламі Народных Камісарыятаў і ўстаноў Рэспубліканскага значэньня, Пракуроры пры НКЮ, Нам. Пам. Пракурора Рэспублікі пры Найвыйшэшым Судзе, Члены Калегій Найвышэйшага Суду, Акруговыя пракуроры, Старшыні Акруговых Судоў, Нам. Старш. Акруговых Судоў, Сьледчы па важнейшых справах пры Народным Камісарыяце Юстыцыі.

### 15 разрад.

Ст. Інспэктар Працы, Пам. Акруговых Пракурораў, Члены Акруговых Судоў, Старшыня і Сьледчыя пры Акруговых Судох.

### 14 разрад.

Інспэктары Працы.

3. Гэта тлумачэньне не пашыраецца на пералічаных у арт. 2 гэтага тлумачэньня працаўнікоў, якія атрымоўваюць персанальныя надбаўкі да сваіх акладаў.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Р. Алесін**.

За Загадчыка Тарыфна-Канфліктнага Аддзелу
НКП БССР **С. Мышалаў**.

Загадчык Агульнага Аддзелу
НКП БССР **Я. Акулаў**.

Узгоднена з ЦСПСБ: Нам. Заг. Тарыфна-
Эканамічнага Аддзелу **З. Каган**.

17 сакавіка 1927 г.
№ 45.

## 9. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

### АБ ПАРАДКУ НАЙМАНЬНЯ І ЎМОВАХ ПРАЦЫ ГРАМАДЗКІХ ПАСТУХОЎ І ПАДПАСКАЎ.

У разьвіцьцё пастановы Савету Народных Камісараў СССР за 18/IV 1925 г. „Аб часовых правілах аб умовах ужываньня дапаможнае наёмнае працы ў сялянскіх гаспадарках“ (Збор Законаў і Загадаў СССР 1925 г. № 28, арт. 183) і інструкцыі да іх Савету Народных Камісараў БССР за 12/VIII—1925 г. (Збор Законаў БССР 1925 г. № 42, арт. 351) Народны Камісарыят Працы БССР ўстанаўляе наступныя правілы аб парадку найманьня і ўмовах працы грамадзкіх пастухоў і падпаскаў:

1. Гэтыя правілы пашыраюцца на грамадзкіх пастухоў і падпаскаў, якія працуюць па найму ў зямельных грамадах, а таксама ў груп уладароў жывёлы.

*Увага.* Умовы працы пастухоў і падпаскаў, якія працуюць па найму ў паасобных сялянскіх гаспадарках, рэгулююцца „Часовымі правіламі аб умовах ужываньня дапаможнае наёмнае працы ў сялянскіх гаспадарках“ і інструкцыяю да іх.

2. Умовы найму пастухоў і падпаскаў вызначаюцца па ўзаемнай згодзе наймальнікаў (зямельнай грамады, групы ўладароў жывёлы) з пастухамі і падпаскамі або з Прафэсіянальным Саюзам сельскагаспадарчых і лясных рабочых БССР, дзейнічаючым ад іх імя.

Пры найме пастухоў і падпаскаў наймальнікі павінны зрабіць з імі, або ад іх імя з Прафэсіянальным Саюзам пісьмовую згоду (працоўны дагавор) аб умовах найму. Умовы працоўнага дагавору ня могуць пагоршваць становішча пастухоў і падпаскаў у параўнаньні з „Часовымі правіламі аб умовах ужываньня дапаможнае наёмнае працы ў сялянскіх гаспадарках“, з інструкцыяй да іх і з гэтаю пастановаю.

Усе працоўныя дагаворы, якія пагоршваюць становішча пастухоў і падпаскаў у параўнаньні з „Часовымі правіламі“, інструкцыяй да іх і гэтаю пастановаю, незаконны і ня маюць сілы.

3. Не дазваляецца рабіць працоўныя дагаворы аб найме пастухоў і падпаскаў, выкананьне якіх павінна пачацца праз год і больш, а таксама на тэрмін больш аднаго году.

У выпадку папярэдняга ўгавору ў восень аб найме пастухоў і падпаскаў для пасьбы жывёлы ў наступным сельска-гаспадарчым сэзоне, агульныя ўмовы дагавору павінны быць падцьверджаны прыгаварам ці пратаколам агульнага сходу наймальнікаў, засьведчаным сельскім саветам.

Наймальнік (грамада, група ўладароў жывёлы) і найміт (пастухі і падпаскі) у выпадку адмовы потым ад найму на ўмовах папярэдняга ўгавору, павінен папярэдзіць аб сваёй адмове другую старану не пазьней, як за два месяцы да пачатку наступнага сэзону пасьбы.

У выпадку непапярэджаньня ў працягу паказанага тэрміну наймальнікамі пастухоў і падпаскаў аб адмове даць ім работу на ўмовах папярэдняга ўгавору, наймальнікі павінны заплаціць нянпрынятым на работу абумоўленую ў папярэднім угаворы ўзнагароду.

4. У працоўным дагаворы павінна быць устаноўлена ўзнагарода пастуху або падпаску ў выпадку адмовы з боку наймальніка (гра-

мады і інш.) даць нанятаму работу да пачатку пасьбы пасьля таго, як будзе зроблен працоўны дагавор аб найме. Разьмер гэтай узнагароды ўстанаўляецца па згодзе старон, але ня менш 2-х месячнага заработку пастуха ці падпаска.

5. Зямельныя грамады і групы ўладароў жывёлы, каб весьці перагаворы аб найме пастухоў і падпаскаў і рабіць з імі працоўныя дагаворы, абіраюць асобных упаўнаважаных, якім даюцца прыгавары агульных сходаў, або пратаколы аб іх абраньні, пасьведчаныя сельскім саветам. На абавязку ўпаўнаважаных грамады ляжыць: а) весьці перагаворы ад імя грамады аб найме пастухоў і падпаскаў і падпісваць з імі (пастухамі, падпаскамі) або прафэсіянальным саюзам, дзейнічаючым ад іх імя, працоўны дагавор; б) выконваюць абавязкі, прынятыя па працоўным дагаворы зямельнаю грамадаю або групаю ўладароў жывёлы.

*Увага.* 1. Засьведчаньне пратаколу агульных сходаў і прыгавараў аб абраньні грамадзкіх упаўнаважаных робіцца сельскім саветам дарэмна.

*Увага* 2. Усе патрабаваньні, прэтэнзіі і зносіны ўладароў жывёлы з пастухамі робяцца праз грамадзкіх упаўнаважаных.

6. У выпадку неабходнасьці найму падпаскаў на падмогу пастуху, наём падпаскаў робіцца наймальнікам па згодзе з пастухом.

У выпадку найму падпаскаў бяз згоды з пастухом, ён можа адмовіцца ад адказнасьці за ўчынкі падпаска.

7. У працоўным дагаворы павінны быць вызначаны: а) склад стада (аднакае або мяшанае і колькасьць жывёлы ў стадзе: буйнай (коней і інш. і дробнай) авец, цялят і інш.; б) тэрмін найму (працяжнасьць тэрміну найму, а таксама дзень і месяц найму і сканчэньне тэрміну найму); в) час пачатку і сканчэньня пасьбы днём і ноччу; г) парадак і месца збору жывёлы перад выганяньнем на пасьбу і прыганяньня з пасьбы; д) месца пасьбы і прагону жывёлы на пасьбу, вадапой і назад; е) віды, разьмеры і тэрміны выплаты заработнае платы; ж) парадак дачы дня адпачынку і звальненьня ад работы ў сьвяточныя дні і асобныя дні адпачынку; з) узнагарода ў выпадку адмовы наймальніка даць работу пастуху, або падпаску да пачатку пасьбы; і) дадатковыя ўмовы.

8. Заработная плата пастухом і падпаскам устанаўляецца ў працоўным дагаворы кожнаму паасобна і ня можа быць ніжэй дзяржаўнага мінімуму, устаноўленага для даннай мясцовасьці.

9. Тэрміны выплаты заработнай платы пастухом і падпаскам вызначаюцца па згодзе старон. Пры канчатковым разьліку заработная плата пастухом і падпаскам павінна быць выплачана не пазьней тэрміну, паказанага ў працоўным дагаворы.

10. Выплата заработнай платы пастухом і падпаскам, якія працуюць у зямельных грамадах, і груп уладароў жывёлы робіцца ўпаўнаважанымі наймальніка, якія павінны своечасова да тэрміну выплаты заработнай платы пастухом і падпаскам сабраць яе з уладароў жывёлы.

11. Усе разьлікі па заработнай плаце з пастухамі і падпаскамі запісваюцца ў працоўным дагаворы.

12. Наймальнікі праз свайго ўпаўнаважанага павінны дарэмна даваць пастухом і падпаскам неабходную рабочую вопратку і абутак, пры чым нормы і якасьць іх устанаўляюцца па згодзе старон у працоўным дагаворы, але ня ніжэй наступнэй нормы: для пастуха

падпаска даецца на сэзон пасьбы кожнаму па аднэй накідцы і па пары скураных пасталоў (лапцей).

*Увага.* Рабочая вопратка і абутак у заработную плату не залічваюцца і па сканчэньні пасьбы застаюцца ў пастухоў і падпаскаў.

13. Пастухом і падпаскам, якія ня маюць свайго жыльля, а таксама прышоўшым з іншых мясцовасьцяй, наймальнікі праз свайго ўпаўнаважанага павінны даць памяшканьне, годнае для жыльля.

Парадак дачы пастухом і падпаскам жыльля і харчаваньня ўстанаўляецца па згодзе старон.

Забараняецца дача пастухом і падпаскам жыльля і харчоў па чарзе ад уладароў жывёлы ў мясцовасьцях, дзе гэта забаронена пастановамі мясцовых Акруговых Выканаўчых Камітэтаў, а таксама ў мясцовасьцях, абвешчаных недабрабытнымі па інфэкцыйных (заразьлівых) хваробах (тыфус, шкарлятына, дыфтэрыт, адзёр, пранцы і інш.).

14. Наймальнік павінен даваць пастухом і падпаскам адзін дзень у тыдзень для адпачынку і звальняць іх ад работы ва ўстаноўленыя законам сьвяточныя дні і паасобныя дні адпачынку. У выпадку немагчымасьці даць пастухом і падпаскам штотыднёвы адпачынак і звольніць іх ад работы ў сьвяточныя дні і асобныя дні адпачынку, наймальнік павінен выдаваць пастухом і падпаскам за работу ў гэтыя дні дадатковую плату, разьмер якой вызначаецца па згодзе старон пры тым, як робіцца працоўны дагавор, і можа залічвацца ў агульную суму заработнае платы, устанаўляемай пры найме.

15. Рабіць самавольна затрыманьні і вылікі з заработку пастуха наймальнікі ня маюць права.

У выпадку, калі наймальнікам будуць па віне пастухоў і падпаскаў зроблены страты патравамі, згубаю ці стратаю адданай у стада жывёлы, пытаньне аб адказнасьці пастухоў вырашаецца ў судовым парадку. Па жаданьні старон пытаньне аб адказнасьці можа таксама разглядацца ў Міравой Камісіі. Разьмер выліку за зробленыя пастухом наймальнікам страты ня можа перавышаць за ўвесь тэрмін найму $1/3$ заработнае платы.

*Увага.* За патравы, параненьне і згубу жывёлы, якія зробяцца пры нэрвовым узбуджэньні жывёлы ў час „гілю“ і „паляваньня“, пастухі і падпаскі не адказваюць.

16. Пастух і падпасак павінны ашчадна адносіцца да жывёлы.

У выпадку згубы жывёлы з стада або пераненьня і захварэньня яе пастухі ў той самы дзень, як імі будзе выяўлена згуба, параненьне ці захварэньне жывёлы, павінны аб гэтым паведаміць грамадзкаму ўпаўнаважанаму або ўладару жывёлы. У выпадку зьяўленьня прымет заразнага захварэньня пастухі павінны паведаміць аб гэтым старшыню ці члена сельскага савету або ўпаўнаважанага ад наймальнікаў. Пастухі павінны наглядаць за ацяленьнем жывёлы ў стадзе і паведамляць аб ацяленьні ўладаром жывёлы і пры гэтым за вынікі ацяленьня адказнасьці не нясуць.

17. Калі ў стада пушчаецца жывёла, якая б'ецца, уладары жывёлы павінны папярэджваць аб гэтым пастуха і рабіць неабходныя захады забясьпекі, напр., надзяваць на рогі дошкі і да г. п.

18. Пастух ня мае права прымаць у стада жывёлу, якая не належыць наймальнікам, без дазволу на гэта грамадзкага ўпаўнаважанага.

19. Звольніць пастуха і падпаска да сканчэньня тэрміну працоўнага дагавору наймальнік (грамада, група ўладароў жывёлы) мае права толькі тады, калі ёсьць на гэта прычыны, заслугоўваючыя ўвагі, з абавязковым папярэджваньнем аб гэтым звальняемага ня менш, як за два тыдні, у выпадку звальненьня пастухоў і падпаскаў раней тэрміну найму, наймальнік павінен заплаціць звальняемаму заработную плату за прапрацаваны час і выходную дапамогу ў разьмеры, умоўленым у працоўным дагаворы, але ня менш двухтыднёвага заработку (грашовага і натуральнага) звальняемых. Пастухі або падпаскі пры адыходзе ад наймальнікаў павінны папярэдзіць іх упаўнаважанага аб сваім адыходзе за два тыдні.

20. Наймальнікі павінны страхаваць пастухоў і падпаскаў у парадку сацыяльнага страхаваньня па існуючых правілах і нормах. У выпадку хваробы пастуха або падпаска за хворым захоўваецца яго месца работы ў працягу ня менш аднаго месяца.

Цяжка хворага пастуха ці падпаска ўпаўнаважаны наймальніка павінен адвезьці ў бальніцу. Харчы і жыльлё, якія даюцца наймальнікамі пастухом і падпаскам, паводле працоўнага догавору, захоўваюцца за імі ў час хваробы ў працягу ня менш аднаго месяца.

21. Членства пастуха і падпаска ў Прафэсіянальным Саюзе і ўдзел у грамадзкай працы ня можа быць прычынаю звальненьня; пры гэтым выкананьне пастухом і падпаскам грамадзкіх абавязкаў робіцца па-завурочным часам, умоўленым працоўным дагаворам, за выняткам выбараў у Савет і ўдзельнічаньня ў агульных сходах.

22. Спрэчкі паміж наймальнікамі і пастухамі і падпаскамі, якія вынікаюць пры невыкананьні і тлумачэньні працоўнага дагавору, а таксама спрэчкі аб звальненьні могуць разглядацца ў міравых камісіях ці вырашацца народным судом у парадку арт. 18 „Часовых правіл“ аб умовах ужываньня дапаможнае наёмнае працы ў сялянскіх гаспадарках“ і арт. арт. 28 і 29 інструкцыі СНК БССР за 12/VIII 1927 г. аб ужываньні гэтых „Часовых правіл“.

23. У выпадку парушэньня наймальнікамі (грамадою ці групаю ўладароў жывёлы) гэтых Часовых правіл аб дапаможнай наёмнай працы ў сялянскіх гаспадарках і інструкцыі па іх ужываньні, зацьверджанай СНК БССР 12 жніўня 1925 г., а таксама ў выпадку невыкананьня прынятых на сябе абавязкаў па працоўным дагаворы з пастухамі і падпаскамі—наймальнікі (грамада ці група ўладароў жывёлы) нясуць адказнасьць у судовым парадку паводле арт. 132 Крымінальнага Кодэксу.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Р. Алесін.**

Загадчык Агульнага Аддзелу НКП БССР **Я. Акулаў.**

Узгоднена:

Нам. Народнага Камісара Землябробства **Я. Валодзька.**

Нам. Загадчыка Эканам.-Тарыфн. Аддзелу ЦСПСБ **З. Каган.**

За Народнага Камісара Аховы Здароўя БССР **С. Дзіхцяр.**

За Старшыню Цэнтральнага Праўленьня Сельска-гаспад. рабочых БССР **Е. Мяркулаў.**

1 красавіка 1927 г.
№ 50.

## 10. Пастанова Народнага Камісарыяту Асьветы БССР

АБ ПРЫРАЎНАНЬНІ АСОБ, ЯКІЯ КАНЧАЮЦЬ ВАЙСКОВЫЯ ШКОЛЫ НА ТЭРЫТОРЫІ БССР ПА АГУЛЬНАЙ АДУКАЦЫІ ДА СКОНЧЫЎШЫХ НАВУЧАЛЬНЫЯ ЎСТАНОВЫ НАРОДНАГА КАМІСАРЫЯТУ АСЬВЕТЫ БССР.

Народны Камісарыят Асьветы БССР пастанаўляе:

1) Асоб, якія канчаюць Аб'яднаную Беларускую Вайсковую Школу імя ЦВК БССР па пяхотным аддзяленьні, або 2-ю пагранічную школу Аб'яднанай Дзяржаўнай Палітычнай Управы, прыраўнаць па агульнай адукацыі да канчаючых сямігадовыя працоўныя школы.

2) Асоб, якія канчаюць Аб'яднаную Беларускую Вайсковую Школу імя ЦВК БССР па артылерыйскім аддзяленьні, прыраўнаць па агульнай адукацыі да канчаючых школы 2-ой ступені або другі курс Пэдагагічнага Тэхнікуму (без спэцыяльных прадметаў).

Народны Камісар Асьветы БССР **А. Баліцкі**.

Загадчык Агульнага Аддзелу НКА БССР **Ю. Савіч**.

17 студзеня 1927 г.
№ 39.

---

## 11 Абежнік Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў БССР

АБ УЗАЕМААДНОСІНАХ ОРГАНАЎ ЗАПІСУ АКТАЎ ГРАМАДЗЯНСКАГА СТАНУ З ОРГАНАМІ СТАТЫСТЫКІ.

*Акруговым Выканаўчым Камітэтам БССР*

У зьвязку з увядзеньнем новых форм актавых кніг і скасаваньнем статыстычных картак, Народны Камісарыят Унутраных Спраў, для урэгуляваньня ўзаемаадносін органаў ЗАГС з органамі дзяржаўнае статыстыкі, прапануюць кіравацца наступным:

1. Статыстычная карта, як самастойная форма, скасоўваецца і яна замяняецца для статыстычных органаў другім экзэмплярам актавага запісу.

2. Мясцовыя органы ЗАГС (гарадзкія, раённыя, сельскія і местачковыя (штомесячна, не пазьней 10 дня наступнага месяца павінны адсылаць другія экзэмпляры актавых кніг (запісаў) у акруговыя органы ЗАГС.

*Увага*. Сельскія і местачковыя ЗАГС і гарадзкія неакруговых гарадоў ЗАГС адсылаюць паказаныя запісы праз адпаведныя раённыя органы ЗАГС.

3. Акруговыя органы ЗАГС, пасьля атрыманьня другіх экзэмпляраў запісаў павінны штомесячна накіроўваць апошнія ў акруговыя статбюро для адпаведнай апрацоўкі.

4. Другія экзэмпляры запісаў аддаюцца ў распараджэньне адпаведных статыстычных органаў на тэрмін ня больш, як 6 месяцаў.

5. Па сканчэньні паказанага 6 месячнага тэрміну другія экзэмпляры запісаў павінны быць зьвернуты статыстычнымі органамі ў належным парадку і захаваньні.

6. На акруговыя органы ЗАГС ўскладаюцца абавязкі сачыць за сваечасовым зваротам статыстычнымі органамі паказаных запісаў і аб усіх непаразуменьнях паведамляць НКУС для прыняцьця адпаведных мер.

7. Другія экзэмпляры актавых запісаў, пасьля атрыманьня іх ад статыстычных органаў, падбіраюцца па роду актаў грамадзянскага стану ў парадку нумароў запісаў па кожнаму органу ЗАГС асобна.

8. Сшываньне (пераплёт) паказаных другіх экзэмпляраў павінен рабіцца па раёнах, па кожнаму акту грамадзянскага стану асобна, пры гэтым запісы местачковых і сельскіх саветаў даннага раёну павінны сшывацца ў альфабэтным парадку.

*Увага 1.* Сшываньне (пераплёт) актавых запісаў робіцца па асобных кнігах ня менш 500 аркушаў кожная.

*Увага 2.* Вядзеньне альфабэту ў другіх экзэмплярах актавых кніг не абавязкова.

9. Сшываньне (пераплёт) другіх экзэпмляраў актавых кніг і прывядзеньне іх у належны парадак для хаваньня ў архівах органаў ЗАГС павінна быць скончана для мінулага году да 1 кастрычніка наступнага году.

З выданьнем гэтага абежніку касуецца абежнік Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў за 6 студзеня г. г. за № 2.

Народны Камісар Унутраных Спраў БССР **А. Сташэўскі**.

Загадчык Цэнтральнага Статыстычнага Кіраўніцтва БССР **М. Шкубер**.

Начальнік Адмін.-Арган. Ўправы НКУС БССР **П. Новікаў**.

28 сакавіка 1927 г.
№ 56.

---

Узгоднена з Народным Камісарыятам Юстыцыі БССР 28/II 1927 году № 1441.

## 12. Інструкцыя Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў БССР

АБ ДЗЕЯНЬНЯХ МІЛІЦЫІ ПРЫ ПАДАВАНЬНІ ГРАМАДЗЯНАМІ ЗАЯЎ АБ ЗГУБЕ АБО КРАДЗЯЖУ ДАКУМЭНТАЎ, А ТАКСАМА АБ ЗГУБЕ РЭЧАЎ І ЖЫВЁЛЫ.

1. Органы міліцыі павінны прымаць ад усіх грамадзян заявы аб згубе імі або крадзяжы ў іх дакумэнтаў, пасьвядчаючых іх асобу, альбо службовыя, асобавыя, маемасныя і іншыя правы, а таксама заявы аб згубленых і загінуўшых (ня ўкрадзеных) рэчах.

2. Атрымаўшы заяву аб згубе або крадзяжу дакумэнтаў, органы міліцыі робяць даведку, ці ня маецца згублены дакумэнт у ліку знаходак (загады Міліцыі і Крымінальнага вышуку БССР № 64—1923 г. і № 44—1926 г.) і, пры адсутнасьці зьвестак аб знахаджэньні памянёнага ў заяве дакумэнту, складаюць пратакол, у які запісваюцца ўсе зьвесткі аб заяўніку і аб згубленым або ўкрадзеным дакумэнце (імя, імя па бацьку, прозьвішча, сацыяльны стан заяўніка, яго месца службы або працы, адрас і назва ўстановы, якая выдала дакумэнт, час выдачы і нумар дакумэнту і на чые імя гэты дакумэнт выдадзены.

3. Для атрыманьня адбітку пратаколу заяўнік для таго, каб пазбавіцца нявыгадных вынікаў ад магчымага скарыстаньня згубленага або ўкрадзенага асобавага дакумэнту знайшоўшым або ўкраў-

шым у сваіх інтарэсах, павінен зрабіць за свой кошт публікацыю ў мясцовым органе друку, якому мясцовы выканаўчы камітэт выдаў права прыняцьця афіцыяльных абвяшчэньняў. Апрача адбіткаў пратаколу, міліцыя не выдае ніякіх дакумэнтаў.

*Увага.* У выпадку згубы альбо крадзяжу пасьведчаньня асобы, яму выдаецца з захаваньнем арт. 33, 34 і інш. інструкцыі НКУС аб парадку ажыцьцяўленьня пастановы аб пасьведчаньнях асоб (Зб. Зак. БССР № 8 – 1924 г., арт. 100) такое самое пасьведчаньне.

4. Расшуканьні згубленых дакумэнтаў міліцыяй і крымінальным вышукам ня робяцца апрача дакумэнтаў асабліваe важнасьці, па якіх памянёнай у дакумэнце асобе даюцца якія-небудзь асаблівыя упаўнамоцтвы, скарыстаньнем якіх знайшоўшы можа зрабіць шкоду дзяржаве. У апошнім выпадку органы міліцыі павінны адбітак пратаколу паслаць у крымінальны вышук для расшуканьня.

5. Пры атрыманьні заявы аб украдзеных дакумэнтах росшук і дазнаньне робяцца толькі аб дакумэнтах асабліваe важнасьці, памянёных у папярэднім артыкуле, а таксама дакумэнтаў маемаснага характару, якімі можа скарыстацца ўкраўшы ў сваіх інтарэсах (іменна, вэксалі з бланкавымі подпісамі, чэкі на прад'яўніка і г. д.), калі пры гэтым паказаны варункі, пры якіх украдзены дакумэнт, паказаны сьведкі, альбо паказана падазроная асоба. У іншых выпадках росшук і дазнаньне адносна ўкрадзеных дакумэнтаў ня робіцца.

6. Пры атрыманьні заявы ад грамадзян аб згубленых, таксама зьнікшых (ня ўкрадзеных) рэчах, альбо жывёле, дзеяньні міліцыі абмяжоўваюцца толькі зьбіраньнем даведак паводле § 2 гэтае інструкцыі. Пры адсутнасьці зьвестак аб паказаных у заяве рэчах альбо жывёле органы міліцыі прапануюць заяўніку зрабіць абвяшчэньне аб згубе або прапажы ў мясцовым органе друку для хутчэйшага выяўленьня згубленага альбо зьнікшага і ніякіх пратаколаў па такіх заявах ня складаюць, росшуку і дазнаньня ня робяць.

7. У сельскіх мясцовасьцях пры звароце грамадзян з заявай аб згубе або прапажы рэчаў альбо жывёлы, міліцыя робіць даведку па сьпісах знойдзеных рэчаў (§ 2), або прыблуднай жывелы, і пры несыяўленьні там згубленага робіць ад імя заяўніка абвяшчэньне аб згубе і прапануе зьвярнуць яе ўласьніку па паказанаму адрасу. Да распаўсюджваньня гэтых абвяшчэньняў прыцягваюцца сельсаветы з скарыстаньнем сельскіх выканаўцаў.

8. Памянёныя ў зазначаным вышэй артыкуле інструкцыі абвяшчэньні вывешваюцца на відным месцы пры Управе Міліцыі, у раённых выканаўчых камітэтах, сельскіх саветах, мясцох грамадзкіх сходаў і наогул у мясцох найбольш даведваемых насяленьнем (каапэрацыйныя магазыны, крамы, ссыпныя пункты і г. д.).

9. Па заявах аб згубе і прапажы рэчаў міліцыя ніякага падліку не вядзе, пры дастаўцы-ж грамадзянамі знойдзеных рэчаў рэгіструе іх і накіроўвае, як находкі.

Нам. Народнага Камісара Ўнутраных
Спраў БССР **Е. Кроль.**

За Начальніка Ўправы
Міліцыі НКУС **В. Бальзоўскі.**

26 сакавіка 1927 г.
№ 57.

## 13. Абежнік Народнага Камісарыяту Грашовых Спраў БССР.

АБ УВЯДЗЕНЬНІ Ў ДЗЕЯНЬНЕ НОВАГА ПАРАДКУ ПРЫЁМУ, ПАДЛІКУ І ВЫДАТКАВАНЬНЯ Ў КАСАХ Н. К. ГРАШОВЫХ СПРАЎ ДЭПАЗЫТАЎ РАСПАРАДЧЫХ КІРАЎНІЦТВАЎ.

*Усім аб'яднаным і неаб'яднаным Нар. Камісарыятам і Цэнтр. установам, усім аддзелам акр. выкан. камітэтаў, органам АДПК, акр. і нар. судом, акр. пракурорам і іх памочнікам, вучастковым пракурорам, нар. съледавацелям, лясьніцтвам, міліцыі і мытніцам, усім іншым установам і службовым асобам, якія зьяўляюцца распарадчыкамі дэпазытаў у касах Н. К. Грашовых Спраў.*

Далучаючы да гэтага: а) зацьверджаныя Н. К. Грашовых Спраў і Н. К. Рабоча-Сялянскае Інспэкцыі СССР Правілы аб парадку прыёму, падліку і выдаткаваньня дэпазытных сум, выдадзеныя на аснове п. 7-га Пастановы СНК СССР за 31-га сьнежня 1926 г., б) копію абежніку свайго за 15 сакавіка г. г. за № 2403—10 на імя ўсіх кас Н. К. Грашовых Спраў аб увядзеньні ў дзеяньне вышэйпамянёных правіл з 1 красавіка 1927 г.*), Н. К. Грашовых Спраў БССР просіць: 1) прыняць да кіраваньня і выкананьня памянёныя правілы № 37, 2) у далейшым пры ўзносе ці выдачы дэпазытных сум пунктуальна прытрымлівацца вымаганьняў належных пунктаў правіл у адносінах складаньня плацежных абвестак, асыгновак, чэкаў і патрабаваньняў, 3) зьвярнуць увагу Народным Камісарыятам і Цэнтральным Установам на неабходнасьць своечасовага заказу ў Кіраўніцтве Вытворчасьці Дзяржаўных Знакаў патрэбных блянкаў — чэкаў ф. № 36, для забесьпячэньня імі ўсіх распарадчыкаў дэпазытаў паводле п. 11 правіл, а таксама прапанаваць з свойго боку ўсім падлеглым установам прыняць да неадкладнага кіраваньня правілы № 37, і 4) даць Касам Н. К. Грашовых Спраў па іх хадайніцтву зьвесткі, патрэбныя для разьмеркаваньня дэпазытных сум асобна на сумы, якія падлягаюць падрабязнаму і якія спрошчанаму рахункаводзтву.

Нам. Народнага Камісара
Грашовых Спраў БССР **В. Мікуліч.**

Пам. Начальніка Бюджэтнага
Кіраўніцтва НКГС БССР **М. Татур.**

Нач. Фін.-Кантрольнага
Кіраўніцтва НКГС БССР **П. Матус.**

15 сакавіка 1927 г.
№ 2403—10.

---

## 14. Абежнік Народнага Камісарыяту Грашовых Спраў БССР

АБ УВЯДЗЕНЬНІ НОВАГА ПАРАДКУ ПРЫЁМУ, ПАДЛІКУ І ВЫДАТКАВАНЬНЯ Ў КАСАХ НАРОДНАГА КАМІСАРЫЯТУ ГРАШОВЫХ СПРАЎ ДЭПАЗЫТАЎ РАСПАРАДЧЫХ КІРАЎНІЦТВАЎ.

*Усім Акр. Аддзелам Грашовых Спраў па Прыхода-Расходных Касах, Цэнтральнай касе і Гарацкай Прыпісной Прыхода-Расходнай Касе Народнага Камісарыяту Грашовых Спраў.*

Далучаючы да гэтага зацьверджаныя Народным Камісарыятам Грашовых Спраў і Народным Камісарыятам Рабоча-Сялянскае Інспэкцыі СССР Правілы аб парадку прыёму, падліку і выдаткаваньню

*) Памянёныя правілы і абежнік надрукаваны ў гэтым-жа № Бюлетэню СНК.

дэпазытных сум, выдадзеныя на падставе п. 7 Пастановы СНК СССР за 31-га сьнежня 1926 г., а таксама форму кніг для падліку гэтых сум і форму чэку, які ў выдаткаваньні дэпазытаў заменіць асыгноўку, Народны Камісарыят Грашовых Спраў прапануе ўвесьці ў дзеяньне гэтыя правілы з 1-га красавіка гэтага году, з выкананьнем пры гэтым наступнага:

1. Падлік дэпазытных сум на падставе дададзеных да гэтага правіл Касы Народнага Камісарыяту Грашовых Спраў могуць весьці да 1-га кастрычніка 1927 г. па кнігах, існуючае цяпер формы № 18, зрабіўшы ў гэтых кнігах наступную дабаўку да загалоўку рахунку дэпазыту: „бягучы рахунак № . . . . ."; з 1-га кастрычніка 1927 г. абавязкова заводзяцца кнігі па дададзеных да правіл новых формах.

2. Рахункі дэпазытаў неабходна нумараваць паступовымі нумарамі для ўсіх распарадчыкаў дэпазытаў па Касе цалкам: рахункі з падрабязным рахункаводзтвам (п. 6-а Правіл) лічбамі няцотнымі, а рахункі са спрошчаным рахункаводзтвам (п. 6-б Правіл)—цотнымі; аб нумарох гэтых Касы павінны паведамляць распарадчыкам дэпазытаў, каб яны паказвалі іх на чэках, якія будуць выпісвацца на выдачу дэпазытаў.

3. Перш, чым рабіць нумарацыю існуючых цяпер дэпазытных рахункаў, Касы павінны старанна праверыць іх, каб упэўніцца, што на рахунках, якія падлягаюць у далейшым падрабязнаму рахункаводзтву, ня лічацца сумы, якія павінны быць аднесены да рахункаў са спрошчаным рахункаводзтвам і наадварот, і ў тых выпадках, калі выявіцца наяўнасьць такіх зьмешаных рахункаў, неабходна зрабіць належнае разьмежаваньне сум, якія цяпер лічацца па гэтых зьмешаных рахунках, паміж устаноўленымі новымі правіламі двумя відамі рахункаў: з падрабязным і спрошчаным рахункаводзтвам.

Для адчыненьня новых рахункаў трэба адвесьці вольныя аркушы кнігі ф. № 18.

4. Бягучыя рахункі дэпазытаў са спрошчаным рахункаводзтвам павінны быць падзелены паводле намэнклятуры ці прызначэньня сум, якія паступілі ці будуць паступаць у дэпазыт. Напрыклад, калі Акруговы Аддзел Грашовых Спраў мае свой рахунак дэпазытаў, на якім цяпер лічацца: а) заклады, б) сумы 10 проц. адлічэньня ад грошай, выручаных ад продажу маемасьці няплатнікаў і в) сумы, якія Акруговы Аддзел Грашовых Спраў атрымаў на правядзеньне якой-небудзь кампаніі, Акруговым Аддзелам Грашовых Спраў гэты рахунак павінен быць разьмеркован наступным парадкам: а) рахунак з закладамі нумаруецца няцотнай лічбой і павінен весьціся па падрабязнаму рахункаводзтву (па ф. № 18), б) рахунак 10 проц. адлічэньня ад сум, выручаных ад продажу маемасьці няплатнікаў, нумаруецца цотнымі лічбамі і падлік іх вядзецца па спрошчанаму рахункаводзтву (па ф. 18-а), таксама і сумы, паказаныя вышэй пад п. „в" павінны быць запісаны на рахунак з асобным чарговым няцотным № (па ф. № 18-а). Гэта значыць, што па бягучых рахунках дэпазытаў са спрошчаным рахункаводзтвам кожная ўстанова можа мець не адзін, а некалькі рахункаў, у залежнасьці ад таго, як шмат будзе ў распараджэньні гэтай установы розных мэтавых прызначэньняў, на якія будуць паступаць у Касу Народнага Камісарыяту Грашовых Спраў грошы.

5. Нумары, якія будуць адзін раз прысвоены рахункам, павінны заставацца нязьменнымі, незалежна ад таго, што рахунак гэты можа існаваць на працягу некалькіх год; новыя рахункі, якія будуць

адчыняцца, трэба нумараваць наступным нумарам за апошнім адчыненым рахункам—у залежнасьці ад таго, ці адчыняецца новы рахунак з падрабязным, ці са спрошчаным рахункаводзтвам.

6. Да тэй пары, пакуль ня будуць загатоўлены чэкі, выдаткі з рахункаў дэпазытаў, якія паступілі ў гатоўцы, павінны праводзіцца па асыгноўках, якія складаюцца без запаўненьня талёнаў іх; гэтыя талёны распарадчыкі дэпазытаў павінны адразаць і пакідаць у сябе. Асыгноўкі з паказаньнем на іх нумару бягучага дэпазытнага рахунку выдаюцца на рукі атрымальніку для падачы іх у Касу Народнага Камісарыяту Грашовых Спраў.

Патрабаваньні на выдачу каштоўных папер і іншых каштоўнасьцяй складаюцца ў форме звычайных адносін.

У асыгноўках павінны быць паказаны ўсе зьвесткі, пералічаныя ў артыкуле 12-ым Правіл, а ў патрабаваньнях, апроч таго, яшчэ і зьвесткі, якія пералічаны ў арт. 7-ым.

7. Калі к моманту ўвядзеньня ў дзеяньне гэтых правіл у Касах Народнага Камісарыяту Грашовых Спраў знойдуцца не аплачаныя асыгноўкі на выдачу дэпазытных сум, Касы не зварочваюць іх распарадчыкам, а зрабіўшы ў асыгноўках прыпіску нумару бягучага рахунку, аплачваюць іх, праводзячы па рахунку „бяспроцантных бягучых рахункаў дэпазытаў“.

8. Рахунак пад № 19 у балянсе зваротаў (ф. № 1) павінен быць пераймяновваны ў „бяспроцантныя бягучыя рахункі дэпазытаў“; у адносінах-жа правядзеньня сум па балянсах застаецца парадак, існуючы цяпер.

9. Тыя з кас Народнага Камісарыяту Грашовых Спраў, якія па якой-небудзь прычыне абязьлічылі па сваіх рахунках сумы, якія падлягаюць падліку з падрабязным рахункаводзтвам і ў якіх астача дэпазытаў на 1-ае кастрычніка перанесена ў новыя кнігі ў агульных сумах, павінны зараз-жа па атрыманьні гэтага абежніку высьветліць шляхам перапіскі з належнымі распарадчыкамі дэпазытаў падрабязна ўсе зьвесткі па кожнай суме, як гэта вымагаецца артыкулам 7-ым Правіл, з тым, каб кожны артыкул у гэтым рахунку меў поўнасьцю ўсе патрэбныя зьвесткі і пасьля гэтага зрабіць разьмежаваньне сум і нумарацыю рахункаў, як паказана вышэй. У выпадку неправядзеньня ў жыцьцё Правіл № 37 з 1 красавіка, Касы Народнага Камісарыяту Грашовых Спраў павінны дакладна паведаміць аб гэтым Бюджэтнае Кіраўніцтва Народнага Камісарыяту Грашовых Спраў БССР.

ДАДАТАК: Правілы № 37, формы кніг №№ 18 і 18-а і форма чэку № 36.

Нам. Народнага Камісара
Грашовых Спраў БССР **В. Мікуліч.**

Пам. Начальніка Бюджэтнага
Кіраўніцтва НКГС БССР **М. Татур.**

Начальнік Фінансава-Кантрольнага
Кіраўніцтва НКГС БССР **П. Матус.**

15 сакавіка 1927 г.
№ 2403--10.

Зацьвярджаю.
Нам. Народнага Камісара
Грашовых Спраў СССР
Кузьняцоў.
8 лютага 1927 г.

Зацьвярджаю
Нам. Народнага Камісара
Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі
СССР
Лебедзь.
22 лютага 1927 г.

## Правілы № 37 аб парадку прыёму, падліку і выдаткаваньня дэпазытных сум, выданыя на аснове п. 7-га Пастановы Савету Народных Камісараў СССР за 31 сьнежня 1926 г.

1. Да ліку дэпазытных сум, належачых абавязковаму ўзносу ў Касы Народнага Камісарыяту Грашовых Спраў для хаваньня на адпаведных бягучых рахунках дэпазытаў, адносяцца сумы, якія паступаюць у часовае распараджэньне знаходячыхся на дзяржаўным бюджэце ўстаноў (цэнтральных і мясцовых) і службовых асоб, таксама ў часовае распараджэньне ўстаноў і асоб, якія ўтрымоўваюцца на мясцовыя сродкі,—ад другіх дзяржаўных устаноў, прадпрыемстваў і службовых і прыватных асоб і падлягаючыя па наступленьні зызначаных умоў звароту ці перадачы па належнасьці як-та: ўсякага роду заклады і забясьпекі, ахвяраваныя сумы, сумы, якія паступаюць для выдачы па пастановах судовых устаноў, сумы, якія паступаюць у распараджэньне ведамстваў на мэтавыя патрэбы, а таксама сумы, характар якіх ня высьветлен, паступаючыя ў касы ведамстваў і падлягаючыя па іх высьвятленьні звароту ў адпаведныя крыніцы, ці перадачы па належнасьці.

*Увага.* Нявысьветленыя сумы прыбытковых паступленьняў, якія паступілі непасрэдна ў Касы Народнага Камісарыяту Грашовых Спраў, залічаюцца імі на рахунак неразьмеркаваных прыбыткаў, з захаваньнем правіл карыстаньня гэтым рахункам, якія ўстаноўлены зацьверджаным Народным Камісарыятам Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі і Народным Камісарыятам Грашовых Спраў СССР 1-га жніўня 1925 г. Наказам па рахункаводзтву і справаздачнасьці ў органах Народнага Камісарыяту Грашовых Спраў і яго дадаткамі, зацьверджанымі 2-га верасьня 1926 г.

2. Не падлягаюць залічэньню ў дэпазыты: а) каштоўныя паперы, папяровыя грошы і звонкая манэта, якія складаюць рэчавыя доказы; б) сумы, зварот якіх у даход скарбу, ці ў мясцовыя сродкі не выклікае ніякіх сумненьняў, в) сумы, падлягаючыя на падставе існуючых законаў залічэньню ў спэцыяльныя сродкі тэй або другой установы, г) авансы, якія атрымоўваюцца з каштарысных крэдытаў на бягучыя выдаткі, як апэрацыйныя, так і дробныя гаспадарчыя і д) астачы крэдытаў па каштарысу даннага году.

3. Дэпазытныя рахункі адчыняюцца для цэнтральных (агульнасаюзных і рэспубліканскіх) краёвых, абласных, губэрскіх, акруговых і іншых дзяржаўных устаноў і службовых асоб у Касах Народнага Камісарыяту Грашовых Спраў, якія знаходзяцца ў межах веданьня гэтых устаноў ці ў тых гарадох, дзе знаходзяцца ўстановы і службовыя асобы, якія зьяўляюцца распарадчыкамі дэпазытаў.

4. У дэпазыты прымаюцца Касамі Народнага Камісарыяту Грашовых Спраў пры адпаведных плацежных абвестках устаноў і паасобных асоб як гатоўка, каштоўныя паперы, так і замежная валюта, вэксалі, манэты не савецкага вырабу і інш., пры чым грашовыя сумы ў савецкай валюце залічаюцца на „бяспроцантныя бя-

гучыя рахункі дэпазытаў“, а каштоўныя паперы і іншыя памянёныя каштоўнасьці—на заграфны рахунак „каштоўнасьцяй распарадчых кіраўніцтваў“ балянсу дзяржаўнага бюджэту.

5. Бяспроцантныя бягучыя рахункі дэпазытаў могуць адчыняцца як па заявах устаноў і асоб, якія ўносяць сумы на хаваньне ў дэпазытах, так і непасрэдна Касамі Народнага Камісарыяту Грашовых Спраў, у выпадку паступленьня ў Касы сум, якія падлягаюць залічэньню ў дэпазыты ўстаноў і асоб, пералічаных у арт. 3-м. У астатнім выпадку Касы Народнага Камісарыяту Грашовых Спраў, пасылаючы паведамленьні аб прыняцьці дэпазытных сум, просяць распарадчыкаў даслаць Касе ўзоры подпісаў асоб, якія будуць падпісваць чэкі, і ўзор пячаткі (арт. 13 гэтых Правіл).

6. Адпаведна характару паступаючых у Касы Народнага Камісарыяту Грашовых Спраў дэпазытных сум, бяспроцантныя бягучыя рахункі па гэтых сумах Касамі Народнага Камісарыяту Грашовых Спраў вядуцца двумя спосабамі:

а) па закладах, забесьпячэньнях, нявысьветленых сумах і сумах, якія належаць трэцім асобам, калі гэтыя сумы здадзены на хаваньне аж да выдачы іх па належнасьці,—з падрабязным запісам кожнага паступленьня ў кнізе па ф. № 18 і

б) па паступленьнях, якія не патрабуюць паасобнага падліку кожнае сумы (ахвяраваньні на вызначную патрэбу, некаторыя мэтавыя сумы і таму падобнае)—па спрошчанай форме № 18-а.

7. У абвестках на ўзнос дэпазытных сум адзначаецца: у якую касу, хто, на якую патрэбу і колькі (літарамі і лічбамі) уносіць і ў распараджэньне якой установы ці асобы ўнасімыя сумы павінны быць залічаны. Па дэпазытных сумах, якія не патрабуюць падрабязнага паартыкульнага падліку, гэтых зьвестак будзе даволі, па дэпазытах-жа з падрабязным рахункаводзтвам, з прычыны асаблівае важнасьці правільных запісаў кожнага паасобнага дэпазытнага артыкулу, бо сумы, якія здаюцца ў такія дэпазыты, падлягаюць у далейшым узвароту, на Касы Народнага Камісарыяту Грашовых Спраў ускладаецца абавязак трэбаваць паведамленьня дадатковых зьвестак, якія могуць высьветліць прыналежнасьць даннага дэпазыту тэй ці іншай асобе, іменна—у чыю карысьць ці па якой і з кім судовай справе сумы ўносяцца, у адносінах-жа закладаў,—апроч таго,—на якія тэрміны здадзены сумы на хаваньне ў дэпазыты і гэтак далей; усе гэтыя зьвесткі поўнасьцю заносяцца ў належныя артыкулы дэпазытных кніг.

У абодвых выпадках у плацежных абвестках паказваецца № таго бяспроцантнага бягучага рахунку, на каторы падлягае залічэньню дэпазыт, які ўносіцца гатоўкаю, а пры ўзносе каштоўных папер паказваецца назва іх, намінальная іх каштоўнасьць, сэрыі і №№ білетаў і тэрмін чарговага купону, пры ўзносе іншых каштоўнасьцяй (арт. 4) паказваюцца галоўныя іх уласьцівасьці і асаблівыя прыметы, сума іх ці ацэнка і тэрмін, калі ён мае для дэпазытнае каштоўнасьці істотнае значэньне (вэксалі).

*Увага.* Пры ўзносе каштоўных папер ці іншых каштоўнасьцяй узносныя абвесткі складаюцца ў 2-х экзэмплярах, ці замест другога экзэмпляру далучаецца да плацежнае абвесткі опіс каштоўных папер і іншых каштоўнасьцяй; у гэтым опісу павінны зьмяшчацца паказаныя вышэй зьвесткі. Опіс ці другі экзэмпляр абвесткі захоўваецца разам з каштоўнымі паперамі і іншымі каштоўнасьцямі ў асобным канвэрце ці скрынцы па кожнай абвестцы.

8. Аб прынятых дэпазытных сумах Касы Народнага Камісарыяту Грашовых Спраў пасылаюць установам і асобам, у распараджэньне якіх сумы паступілі, належныя паведамленьні. Паведамленьні гэтыя не пасылаюцца цэнтральным установам у тых выпадках, калі прынятыя Касамі сумы непасрэдна касамі-ж пераводзяцца на цэнтралізаваныя рахункі гэтых установ.

9. Сумы, якія знаходзяцца ў дэпазытах, могуць выпісвацца ў расход толькі на наступныя патрэбы, паказваемыя ў тэксьце чэку: а) на зварот іх асобе, іх унёсшай, ці ўпаўнаважаным асобам па даверанасьці (напрыклад, заклады па закачэньні апэрацыі, імі забясьпечаной) б) на перадачу па прыналежнасьці (напрыклад—калі сабраныя ахвяраваньні) з дэпазыту даннае ўстановы перадаюцца ў належны орган, які распараджаецца гэтымі ахвяраваньнямі ці калі сумы, якія ўнесены ў дэпазыт суду, выдаюцца ісцам у выпадку задавальненьня іскаў), в) на пералічэньне ў адпаведную крыніцу па высьвятленьні прызначэньня сум, унесеных у дэпазыт з прычыны няяснасьці прызначэньня, і г) на патрэбы, дакладна вызначаныя характарам і прызначэньнем дэпазыту.

10. Выдаткі з дэпазытаў робяцца па асобных імянных чэках (фор. № 36) тых установ і асоб, у распараджэньні якіх гэтыя дэпазыты знаходзяцца.

11. Блянкі паказаных у артыкуле 10 чэкаў загатаўляюцца Кіраўніцтвам Вытворчасьці Дзяржаўных Знакаў па заказах Народных Камісарыятаў і Цэнтральных Установ Саюзу і Саюзных Рэспублік; Цэнтральныя ўстановы забясьпечваюць блянкамі чэкаў падведамственныя ім мясцовыя ўстановы. Блянкі чэкаў захоўваюцца і расходуюцца тым-жа парадкам, які устаноўлен для хаваньня і расходваньня асыгновак.

Нумары чэкаў, якія будуць выдавацца на Касы Народнага Камысарыяту Грашовых Спраў распарадчыкі дэпазытамі загадзя паведамляюць належным Касам, а апошнія паказваюць гэтыя нумары ў загалоўках бягучых рахункаў для параўнаньня іх з нумарамі чэкаў, якія будуць прад'яўляцца для плацяжу.

12. У чэках на правядзеньне выдаткаў з дэпазытных сум абавязкова паказваецца: 1) нумар бягучага рахунку, 2) найменьне распарадчыка, які дае чэк, 3) дата чэку, 4) сума, якая падлягае выдачы або сьпісаньню (літарамі і лічбамі), 5) найменьне асобы, якой сума гэта павінна быць выдадзена ці выслана або паказаньне крыніцы ў якую гэту суму належыць пералічыць, і 6) пры выпісцы ў расход сум з рахунку дэпазыту з падрабязным рахункаводзтвам зьверх гэтага паказваецца нумар прыбытковага артыкулу асноўнага журналу Касы Народнага Камісарыяту Грашовых Спраў, пад які сума, якая выпісваецца ў расход, паступіла. У тых выпадках, калі выдача робіцца ня тэй асобе, якой, згодна запісу па кнізе бягучых рахункаў дэпазыту, дэпазыт належыць ці падлягае быць выданым, а праваприемніку гэтае асобы—распарадчыкі паказваюць у чэку ці на адвароце яго падставы замены атрымальніка.

На чэкі накладаецца пячатка распарадчыка дэпазыту; чэкі лічацца сапраўднымі ў працягу аднаго месяца з часу падпісаньня іх.

*Увага.* У тых выпадках, калі аднэй і тэй-жа асобе з аднаго і таго-ж рахунку дэпазыту з падрабязным рахункаводзтвам належыць выдаць некалькі сум, якія паступілі ў розны час, чэк складаецца адзін, але ў ім паказваюцца ўсе артыкулы, пад якімі паасобныя выпісваемыя сумы запісаны.

13. Узоры подпісаў і пячатак распарадчыкамі дэпазытаў загадзя пасылаюцца Касам Народнага Камісарыяту Грашовых Спраў, таксама Касы паведамляюцца аб усіх наступных зьменах у складзе распарадчыкаў, падпісваючых чэкі.

14. Пры аплаце дэпазытных чэкаў Касы Народнага Камісарыяту Грашовых Спраў робяць праверку, ці захаваны пры складаньні чэку ўсе патрабаваньні артыкулу 12-га гэтых правіл, ці адпавядаюць патрабаваньні аб выплаце запісам дэпазытных кніг, ці тымі асобамі чэкі падпісаны, узоры подпісаў якіх захоўваюцца ў Касе і ці ня сышоў месячны тэрмін з часу выпіскі чэку, а таксама ўпэўніваюцца ў асабістасьці атрымальнікаў па чэках.

15. Калі чэкі на выдачу дэпазытных сум ня будуць задавальняць паказаным ў артыкуле 12-м гэтых правіл патрабаваньням або яны будуць падпісаны ня тымі асобамі, узоры подпісаў якіх захоўваюцца ў Касе, чэкі зварачаюцца атрымальніку з тлумачэньнем прычын звароту на адвароце чэку.

16. Дэпазытныя сумы, якія пастуцаюць у мясцовыя Касы Народнага Камісарыяту Грашовых Спраў як ахвяраваньні, сумы з мэтавым прызначэньнем і да гэтага падобныя, якія знаходзяцца ў распараджэньні цэнтральных устаноў, але расходаваньне якіх на мясцох ня робіцца, пэрыядычна пераводзяцца прыняўшымі гэтыя сумы Касамі Народнага Камісарыяту Грашовых Спраў на цэнтралізаваны бягучы рахунак цэнтральнага органу, які распараджаецца даннымі сумамі, у тую Касу Народнага Камісарыяту Грашовых Спраў, у якой адчынен цэнтралізаваны рахунак даннага дэпазыту, у тэрміны і парадкам, які паказваецца па кожнаму віду дэпазытных сум, на аснове ўмоў Народнага Камісарыяту Грашовых Спраў з ведамствамі.

17. Дэпазытныя сумы, як у гатоўцы, так і ў каштоўных паперах і іншых каштоўнасьцях, хаваюцца ў Касах Народнага Камісарыяту Грашовых Спраў у працягу 3-х год з дню іх залічэньня ў дэпазыт, за выключэньнем: а) сум, якія ўнесены ў заклады, б) сум па нявырашаных судовых справах, і в) сум, адносна тэрмінаў хаваньня якіх будуць зроблены спэцыяльныя ўмовы з належным Народным Камісарыятам Грашовых Спраў; гэтыя сумы хаваюцца ў працягу 3-х год з дню спыненьня дзеяньня ўмоў або вырашэньня судовых спраў ці сканчэньня тэрміну, які ўстаноўлен умовай з належным Народным Камісарыятам Грашовых Спраў.

18. Дэпазытныя сумы, якія ўнесены як гатоўкай, так і іншымі каштоўнасьцямі, не запатрабаваныя ў працягу паказаных у папярэднім артыкуле тэрмінаў, па паўгодзьдзях пералічаюцца Касамі Народнага Камісарыяту Грашовых Спраў у прыбытак скарбу; дзеля гэтага Касы 1-га сакавіка і 1-га верасьня складаюць у 3-х экз. сьпісы дэпазытных сум, якім к гэтаму часу сышоў 3-х гадовы тэрмін хаваньня, і адзін экз. сьпісу пасылаюць тэй установе ці асобе, у распараджэньні якой данны дэпазыт лічыцца. Па атрыманьні сьпісаў распарадчыкі дэпазытаў павінны безадкладна праверыць паказаныя ў сьпісах сумы і аб тых з іх, далейшае хаваньне якіх неабходна (заклады, сумы па нясконченых справах) паведаміць Касы Народнага Камісарыяту Грашовых Спраў.

Калі Каса Народнага Камісарыяту Грашовых Спраў у працягу двух тыдняў в дню пасылкі сьпісу не атрымае ад распарадчыкаў дэпазытаў паведамленьня аб неабходнасьці далейшага хаваньня тых ці іншых дэпазытных сум, яна сваім уласным распараджэньнем пе-

ралічае ўнесеныя ў сьпісы сумы у прыбытак скарбу, паведамляючы аб гэтым распарадчыкаў дэпазытаў, якія на аснове гэтых паведамленьняў праводзяць пералічаныя Касамі сумы расходам па сваіх рахунках.

19. Сумы, якія засталіся к канцу бюджэтнага году нявыплачанымі па рахунках дэпазытаў з кароткім рахункаводзтвам, пераносяцца агульнай абязьлічанай астачай у кніжкі бягучага рахунку па дэпазытах наступнага году, а дэпазыты з паартыкульным рахункаводзтвам пераносяцца ў кнігі наступнага году паартыкульна.

20. Узварот дэпазытных сум, пералічаных у прыбытак скарбу за сходам тэрміну хаваньня ці па іншых падставах, у выпадку прызнаньня неабходнасьці такога ўзвароту, праводзіцца агульным парадкам, устаноўленым для ўзвароту сум, якія са збыткам ці няправільна паступілі ў скарб.

21. Дэпазыты, якія паступяць каштоўнымі паперам і іншымі каштоўнасьцямі, залічаюцца на рахунак „каштоўнасьцяй распарадчых кіраўніцтваў“ па рахунку тае ўстановы ці асобы, у распараджэньне якое ўносяцца, і расходуюцца па асобных патрабаваньних распарадчыкаў, у якіх патрабаваньнях павінны быць усе зьвесткі, выкладзеныя ў артыкуле 12-ым гэтых правіл; апроч таго, у патрабаваньнях павінна быць паказана: найменьне каштоўных папер, сэрыі і нумары білетаў і тэрмін чарговага купону, а па іншых каштоўнасьцях—усе галоўныя ўласьцівыя і спэцыфічныя прыметы (і тэрміны), паказаныя ў артыкуле 7-ым гэтых правіл.

22. Купоны ад каштоўных папер, якія хаваюцца ў дэпазытах, з надыходам тэрміну іх аплаты могуць выдавацца ўласьнікам папер (заклададацелям) па патрабаваньнях распарадчыкаў дэпазытаў, пад расьпіскі на гэтых патрабаваньнях; аб выдачы купонаў Касамі Народнага Камісарыяту Грашовых Спраў робяцца адзнакі ў кнізе ф. № 20 (наказ па рахункаводзтву і справаздачнасьці).

23. У выпадку хадайніцтва заклададацеляў, ўнёсшых заклады гатоўкаю, аб адмене іх на каштоўныя паперы, распарадчык дэпазыту складае на імя Касы Народнага Камісарыяту Грашовых Спраў належны чэк на выпіску ў расход грошай на куплю каштоўных папер, паказваючы на адвароце чэку назву папер. Купленыя каштоўныя паперы залічаюцца Касаю па рахунку каштоўнасьцяй распарадчых кіраўніцтваў на рахунак тэй-жа ўстановы, на якім знаходзілася гатоўка, зьвернутая на куплю каштоўных папер.

24. Назіраньне за выхадам знаходзячыхся ў дэпазытах каштоўных папер у тыраж і за тыражом выйгрышаў, а таксама за тэрмінамі вэксалёў да абавязкаў Касы Народнага Камісарыяту Грашовых Спраў не адносіцца.

25. Па сканчэньні месяцу Касы Народнага Камісарыяту Грашовых Спраў пасылаюць распарадчыкам дэпазытаў зьвесткі аб усіх выплачаных імі па даннаму дэпазыту сумах. У гэтых зьвестках паказваецца: час выплаты, каму плацеж зроблен, № чэку і выплачаная сума.

26. Для праверкі зваротаў дэпазытных сум па бяспроцантных бягучых рахунках і па рахунку каштоўнасьцяй распарадчых кіраўніцтваў, кіраўніцтвы гэтыя, па сыходу кожнага месяца, дастаўляюць складзеныя імі параўнальныя ведамасьці ў Касы Народнага Камісарыяту Грашовых Спраў, якія хаваюць дэпазытныя сумы, паказваючы ў ведамасьцях звароты паасобнымі сумамі па кожнаму з паказаных вышэй рахункаў.

Параўнальныя ведамасьці, па праверцы іх і належным засьведчаньні, Касы Народнага Камісарыяту Грашовых Спраў зварачаюць распарадчым кіраўніцтвам не пазьней трох дзён з моманту атрыманьня ведамасьцяй.

Пам. Начальніка Бюджэтнага Кіраўніцтва
Народнага Камісарыяту Грашовых Спраў СССР **Трахімоўскі**.

Пам. Начальніка Грашова-Кантрольнага
Кіраўніцтва НКГС СССР **Ланда**.

---

ФОРМА ЧЭКУ.

№ (чэку) ........................

Сума

руб. ............ к. ...........

.............................................

.............................................

.............................................

(выдадзены ці высланы грошы, ці куды пералічаны)

№ ........ артыкулу, які выпісваецца ў выдатак па кнізе дэпазытаў распарадчыка.

Чэк сапраўдны ў працягу месяца ад часу падпісаньня яго.

Форма № 36.

У ................................................ касу Н. К. Грашовых Спраў.

№ бягучага рахунку дэпазыту,
№ чэку.

Руб. .................. кап. ..........

.............................................................................
(найменьне распарадчыка)

№ .................. ________________ 192 г.
(дата і № артыкулу, пад якім сума, якая выдаецца, была прынята касаю Н. К. Грашовых Спраў.

Прашу Касу Н. К. Грашовых Спраў значачыеся на маім дэпазытным рахунку

_____________________________________________
(найменьне рахунку)

пад паказаным вышэй артыкулам [1])

______________________________________ р. _____ к.

выдаць, выслаць, пералічыць [2]) ____________

.............................................................................

„_______“ ...................... 192 г. (подпіс).

Вызначаную ў чэку літарамі суму

атрымаў. „ “ .................. 192 г. (подпіс)

НА АДВАРОЦЕ ЧЭКУ:

1. Пры выдачы за рахунак дэпазытаў са спрошчаным рахункаводзтвам замест прыходнага артыкулу ставіцца найменьне дэпазытнага рахунку.

2. Пры запаўненьні чэку адпаведныя словы падкрэсьліваюцца.

3. У тых выпадках, калі дэпазыт выдаецца ня тэй асобе, якой належыць да выдачы паводле запісу ў дэпазытнай кнізе, у чэку абавязкова паказваецца, на падставе якой пастановы зроблена замена атрымальніка.

Форма 18-а

# КРЭДЫТ

Рахунак №..................

# ДЭБЭТ

(Найменьне распарадчыка; намэнклятура дэпазытнага рахунку: ахвяраваньне на такую-та патрэбу або адлічэньне ад такога-та падатку і на тое або іншае).

| № прыбытку па парадку з пачатку году | Час паступленьня (месяц і дзень) | №№ прыбыткоў. артыкулаў па журналу ф. № 9 | Ад каго паступілі грошы, ці адкуль пералічаны | Сума | | №№ выдатку па парадку з пачатку году | Час выдатку (месяц і дзень) | Месяц, дзень і № чэку | Каму выдадзены ці высланы грошы, ці куды пералічаны | Сума | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | руб. | к. | | | | | руб. | к. |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | |
| Астача ад мінулага году | | | | 5000 | | 1 | 2 кастр. | — | Па ордэру касы пераведзена на бягучы рахунак №.................у Праўленьне Дзяржбанку | 5000 | |
| 1 | 2 кастр. | 21 | Іванова | 20 | | | | | | | |
| 2 | 4 „ | 66 | Пятрова | 30 | | | | | | | |
| 3 | 31 „ | 620 | Васільева | 10 | | 2 | 10 „ | 9/X № 1. | Мікалаеву | 40 | |
| | | | РАЗАМ за кастрычнік . . . . | 60 | | | | | Разам за кастрычнік | 5040 | |
| | | | | | | | | | Астача к наступн. месяцу . . . . . . | 20 | |
| | | | Усяго з астачай . . . | 5060 | | | | | Усяго з астачай . . | 5060 | · |

*КРЭДЫТ*

Рахунак №..................

## НАЙМЕНЬНЕ РАСПАРАД

| № па парадку | Час паступленьня | №№ прыходных артыкулаў па журналу № 9 | Ад каго паступілі грошы, або адкуль пералічаны | На якую патрэбу | Сумма Руб. | Сумма К. | Адзінка аб выдачы, рабімая проціў кожнага артыкулу, з паказаньнем чарговага нумару адпаведнага расходнага артыкулу |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | | 7 |
| 1 | 1926 г. 2 кастрычніка | 21 | І. Пятрова | На ўплату кватэрнае платы, якая належыць Жылтварыству № 560 за верасень 1926 г. | 5 | — | 5 р. № 1 |
| 2 | 3 | 43 | Нач. Міліцыі 1 вуч. за № 31. | Адабраныя ў І. Катова пры арышце | 80 | — | |
| 3 | 5 | 70 | Аддзелу Нарасьветы за № 21 | Заклад Н. Мікалаева па рамонту школ на тэрмін 30 кастрычніка 1928 году | 500 | — | 100 р. № 2 |
| | | | | Разам за кастрычнік . . . | 585 | | |
| | | | | | | | |

Увага: Артыкул пад № 1 можа быць на рахунку Народнага № 3 на рахунку Аддзелу Народнае Асьветы.

Форма № 18.

ЧЫКА..........................

*ДЭБЭТ*

| № выдатку з пачатку году | Час выдатку | Месяц, дзень і № чэку | Найменьне ўстаноў і асоб, якім выдадзены ці высланы грошы і паказаньне, куды пералічаны | Сума | | Астача на 1 дзень кожнага месяцу | Парадкавы прыбыткоў. № артыкулу па кнізе, з якога грошы выпісаны ў выдатак |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Руб. | К. | | |
| 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | | 13 | 14 |
| 1 | 10 кастрычніка | 9 кастрычніка № 1 | Па ўпаўнаважаньню Таварыства № 560 т. Іванову | 5 р. | — | — | 1 |
| | | | Разам за кастрычнік . . . | 5 | | 580 | |
| 2 | 1 лістапада | 1 лістапада № 2 | Н. Мікалаеву | | | | 3 |

Суду, артыкул пад № 2 на рахунку Кіраўніцтва Міліцыі і артыкул пад

## 15. Работа Зямельных Камісій.

У справаводзтве 100 раённых зямельных камісій к пачатку мінулага году засталося неразгледжаных 2.453 спрэчна-зямельных справы і 551 земляўпарадчая справа, а ўсяго 3.004 справы. За мінулы год паступіла на разгляд зямельных камісій 17.255 спрэчна-зямельных і 4.027 земляўпарадчых, а ўсяго 21.282 справы. Такім чынам у справаводзтве ўсіх раённых зямельных камісій у справаздачным годзе было 19.708 спрэчна-зямельных і 4.578 земляўпарадчых спраў, а ўсяго, наогул, 24.286 спраў. У сярэднім, значыць, у справаводзтве кожнай раённай зямельнай камісіі было ў працягу году па 243 справы.

Разгледжана за справаздачны час усімі раённымі зямельнымі камісіямі спрэчна-зямельных спраў 16.551 і земляўпарадчых 3.905, а ўсяго 20.456 спраў, г.-ё. у сярэднім кожная раённая зямельная камісія разгледзела за год 205 спраў.

Засталося неразгледжаных у справаводзтве зямельных камісій к пачатку бягучага году 3.157 спрэчна-зямельных і 673 земляўпарадчых, а ўсяго 3.830 спраў, г.-ё. 18 проц. усіх падлягаўшых разгляду спраў. Залеж неразгледжаных раённымі зямельнымі камісіямі спраў павялічылася за год на 826. З агульнага ліку 3.830 неразгледжаных спраў 534, г.-ё. 14 проц., знаходзілася ў справаводзтве болей трох мясцаў.

З разгледжаных за год раённымі зямельнымі камісіямі 16.551 спрэчна-зямельных спраў абскарджана ў акруговыя зямельныя камісіі 4.322 справы, г.-ё. 26 проц., процант-жа абскарджаных рашэньняў раённых зямельных камісій па земляўпарадчых справах значна большы, складае 36 проц., дзеля таго, што з 3.905 разгледжаных раённымі зямельнымі камісіямі гэтага роду спраў абскарджана 1.411. У агульнай-жа складнасьці з 20.456 вырашаных раённымі зямельнымі камісіямі спраў абскарджана 5.733, што дасьць 28 проц. абскарджаньня проціў 32 проц. мінулых гадоў. Гэтыя лічбы паказваюць, што насяленьне ў справаздачным годзе было болей задаволена работай раённых зямельных камісій, чым у папярэднія гады.

Справы, якія знаходзіліся ў справаводзтве раённых зямельных камісій, па катэгорыях дзеляцца наступным чынам: з агульнага ліку 19.708 спрэчна-зямельных спраў было 7.269 сямейна-маемасных падзелаў, 417 іскаў аб выплатах пры выхадзе членаў з недрабімага двара, 3.015 іскаў аб звароце парушанага землякарыстаньня ў спрошчаным парадку судасправаводзтва, 3.258 іншых зямельных захватаў, 789 іскаў аб забраньні зямлі з працоўнага землякарыстаньня, 285 спраў аб працоўнай арэндзе зямлі, 87 скарг на прыгавары сходаў і 4.588 спраў астатніх катэгорый. Такім чынам болей усяго было ў справаводзтве зямельных камісій спраў аб сямейна-маемасных падзелах сялянскіх гаспадарак—37 проц., аб усякіх парушэньнях чужога землякарыстаньня 32 проц. і інш. спраў 23 проц.

Справы аб самавольных захватах зямлі разьмеркаваны па акругах нераўнамерна. Больш усяго такіх спраў у Мазырскай акрузе—60 проц., а менш усяго ў Віцебскай—25 проц.

У катэгорыю іншых спраў уваходзяць іскі аб дарогах і прагонах, аб спадчыне, аб аднаўленьні прапушчанага тэрміну на абскарджаньне рашэньня, аб правільным выкананьні рашэньня зямельнай камісіі, аб замацаваньні зямлі ў працоўнае карыстаньне і падраўненьні землякарыстаньня.

З агульнага ліку 4.578 земляўпарадчых спраў, якія знаходзіліся ў справаводзтве раённых зямельных камісій у спраздачным годзе, было 238 спраў аб міжселішчным земляўпарадкаваньні, 677 аб поўным разьмеркаваньні ўдоб'яў, 48 аб выдзелах з грамады, 1.199 абрэзак буйных гаспадарак, 2.073 справы аб надзяленьні зямлёю з запаснага фонду і 343 іншых справы. Такім чынам з ліку земляўпарадчых спраў больш усяго было ў справаводзтве зямельных камісій спраў аб надзяленьні бязьзямельнага і малазямельнага працоўнага землеробчага насяленьня зямлёю з запаснага фонду—45 проц., аб забраньні лішкаў зямлі з карыстаньня буйных гаспадарак—26 проц. і аб поўным унутрыселішчным земляўпарадкаваньні—15 проц.

Па акругах гэтыя катэгорыі спраў раённых зямельных камісій у адносінах усіх земляўпарадчых спраў дадуць наступны процант:

| | Бабруйская | Барысаўск. | Віцебская | Калінінск. | Менская | Магілёўск. | Мазырская | Аршанская | Полацкая | Слуцкая |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Унутрыселішчнае земляўпарадкаван. . | 9 | 5 | 20 | 19 | 6 | 20 | 4 | 23 | 22 | 9 |
| Забраньне лішкаў зямлі . . . . . . . | 18 | 29 | 34 | 15 | 37 | 12 | 17 | 21 | 11 | 35 |
| Надзяленьне зямлёю . . . . . . . | 60 | 53 | 34 | 55 | 46 | 52 | 49 | 39 | 48 | 38 |

З гэтай табліцы відаць, што спраў па ўнутрыселішчнаму земляўпарадкаваньню больш усяго маецца ў акругах Аршанскай, Полацкай, Віцебскай, Магілёўскай і Калінінскай і менш усяго ў акругах старое Меншчыны.

У ліку 343 іншых земляўпарадчых спраў паказаны справы па адводу зямлі для нясельска-гаспадарчага карыстаньня і па гаспадарачаму ўпарадкаваньню вёскі.

У справаводзтве дзесяцёх акруговых зямельных камісій к пачатку мінулага году заставалася нявырашаных 1.331 спрэчна-зямельная і 408 земляўпарадчых, а ўсяго 1.739 спраў. За мінулы год паступіла на разгляд акруговых зямельных камісій 6.422 спрэчна-зямельных і 3.516 земляўпарадчых, а ўсяго 9.938 спраў. Такім чынам у справаводзтве ўсіх акруговых зямельных камісій у справаздачным годзе было 7.753 спрэчна-зямельных і 3.924 земляўпарадчых, а ўсяго 11.677 спраў. У сярэднім, значыць, у кожнай акруговай зямельнай камісіі было за год па 1.168 спраў.

Разгледжана за справаздачны час усімі акруговымі зямельнымі камісіямі ў якасьці першай інстанцыі 774 спрэчна-зямельных і 265 земляўпарадчых, усяго 1.039 спраў, у якасьці-ж другой інстанцыі 5.287 спрэчна-зямельных і 2.946 земляўпарадчых, усяго 8.233 справы; усяго-ж разгледжана акруговымі зямельнымі камісіямі за год 9.272

справы, г.-ё. у сярэднім кожная акруговая зямельная камісія разгледзела за справаздачны час 927 спраў.

Засталося неразгледжаных у справаводзтве акруговых зямельных камісій к пачатку бягучага году 1.692 спрэчна-зямельных і 713 земляўпарадчых, а ўсяго 2.405 спраў, г.-ё. 20 проц. усіх падлягаўшых разгляду спраў. Наогул залеж неразгледжаных акруговымі зямельнымі камісіямі спраў павялічылася за год на 666 спраў. З агульнага ліку 2.405 нявырашаных спраў 358, г.-ё. 15 проц., знаходзілася ў справаводзтве акруговых зямельных камісій болей трох месяцаў.

З разгледжаных за год акруговымі зямельнымі камісіямі ў якасьці першай інстанцыі 774 спрэчна-зямельных спраў абскарджана ў касацыйным парадку ў Асобую Калегію Вышэйшага Кантролю 140, г.-ё. 18 проц.; што-ж тычыцца земляўпарадчых спраў, то з 265 разгледжаных абскарджана 31, г.-ё. 11 проц. У агульнай-жа складнасьці з 1.039 спраў, вырашаных акруговымі зямельнымі камісіямі ў якасьці першай інстанцыі, абскарджана 171, што дае 16 проц. абскарджаньня проціў 32 проц. мінулага году. Гэтыя лічбы сьведчаць аб тым, што стораны ў справаздачным годзе былі болей задаволены рашэньнямі акруговых зямельных камісій, чым у 1925 годзе.

Работа акруговых зямельных камісій служыць таксама, часткова паказчыкам, наколькі правільна вырашаюцца справы раённымі зямельнымі камісіямі. З агульнага ліку разгледжаных акруговымі зямельнымі камісіямі ў справаздачным 1926 годзе скарг на рашэньні раённых зямельных камісій:

| | Па спрэчна-зямельных справах | | Па земляўпарадчых справах | | Па ўсіх, наогул, справах | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Спраў | % | Спраў | % | Спраў | % |
| Скаргі пакінуты бяз выніку . . . . . . . . . . | 2.437 | 46 | 1.623 | 55 | 4.060 | 50 |
| Рашэньні раённых зямельных камісій адменены з зваротам ім спраў для новага разгляду . . . . . . . . | 887 | 17 | 550 | 18 | 1.437 | 17 |
| Рашэньні раённых зямельных камісій адменены з спыненьнем справы справаводзтвам . . . . . . . . | 721 | 14 | 120 | 4 | 841 | 10 |
| Рашэньні раённых зямельных камісій зьменены па сутнасьці . . . . . . . . | 1.242 | 23 | 653 | 23 | 1.895 | 23 |
| УСЯГО . . . . | 5.287 | 100 | 2.946 | 100 | 8.233 | 100 |

У папярэднім 1925 годзе 47 проц. разгледжаных акруговымі зямельнымі камісіямі скарг на рашэньні раённых зямельных камісій пакінута бяз вынікаў, 6 проц. абскарджаных спраў зьвернута было ў раённыя зямельныя камісіі для новага разгляду, 12 проц. выраша-ных імі і абскарджаных спраў спынена было справаводзтвам і на 35 проц. абскарджаных спраў у рашэньні раённых зямельных камісій былі ўнесены зьмены акруговымі зямельнымі камісіямі.

Такім чынам колькасьць зацьверджаных другою інстанцыяю ра-шэньняў раённых зямельных камісій у справаздачным годзе некалькі павялічылася, што сьведчыць аб палепшаньні пастаноўкі ў іх справы; разам з тым павялічыўся процант зварочваемых акруговымі зямельнымі камісіямі спраў у раённыя зямельныя камісіі, што напэўна прыводзіць да валакіты ў справаводзтве зямельных спраў.

Больш усяго рашэньняў раённых зямельных камісій зацьвяр-джаецца ў другой інстанцыі па Віцебскай акрузе—61 проц., а менш усяго па Калінінскай—40 проц. Адсюль трэба вывесьці заключэньне, што работа раённых зямельных камісій Калінінскае акругі мае патрэбу ў сталым інструктаваньні і рэвізіі на месцы. У такім-жа, амаль, становішчы знаходзіцца і пастаноўка справы ў зямельных камісіях Барысаўскае акругі.

Зьвяртае на сябе ўвагу аграмадны процант спраў—39 проц., па якіх Менская акруговая зямельная камісія у парушэньне арт. 167 інструкцыі аб парадку справаводзтва спраў, ня выносіць сама, каб пазбавіцца валакіты, рашэньняў па сутнасьці разглядае-мых ею скарг, а зварочвае справы ў раённыя зямельныя камісіі для новага разгляду. Той-жа недахоп, хоць і ў меншай некалькі ступені, маецца ў рабоце Аршанскай—29 проц. і Калінінскай—21 проц. акруговых зямельных камісій.

Па катэгорыях справы, якія знаходзіліся ў справаводзтве акруговых зямельных камісій, за справаздачны год дзеляцца прыблізна таксама, як і ў раённых зямельных камісіях, прычым спраў па ўнутрыселішчнаму земляўпарадкаваньню больш усяго маецца ў Полацкай акруговай зямельнай камісіі, па забраньню лішкаў зямлі з карыстаньня буйных гаспадарак—у Менскай і па надзяленьню зямлёю з складу запаснага фонду—у Бабруйскай акруговай зямельнай камісіі.

Дзеяльнасьць за справаздачны час акруговых зямельных камісій па кіраўніцтву з іх боку работай раённых зямельных камісій шляхам інструктаваньня і абрэвізаваньня відна з наступнай табліцы:

| | Бабруйская | Барысаўск | Віцебская | Калінінск. | Менская | Магілёўск. | Мазырская | Аршанская | Полацкая | Слуцкая | УСЯГО |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Агульны лік раён. зямельн. камісій у акрузе . . . . | 12 | 9 | 12 | 10 | 11 | 10 | 10 | 10 | 9 | 7 | 100 |
| З іх абрэвізавана акруговай зямельнай камісіяй . . . | — | 6 | — | 3 | 9 | 1 | 9 | 3 | 3 | 4 | 38 |

Толькі Мазырская і Менская акруговыя зямельныя камісіі ў высторчальнай ступені выканалі ў справаздачным годзе сваю абавязнасьць па кіраўніцтву работай раённых зямельных камісій.

Раённая зямельная камісія зьяўляецца ніжэйшай інстанцыяй зямельнага суду і разам з тым найболей блізка стаячай да сялянскага насяленьня. Старшыня і яго намесьнік назначаюцца з ліку членаў мясцовага выканаўчага камітэту. Астатнія два члены і кандыдаты да іх выбіраюцца на раённым зьезьдзе саветаў. Па складу судзьдзяў раённая зямельная камісія зьяўляецца органам, добра знаёмым з мясцовым сялянскім жыцьцём, а так ужо значныя параўнальныя разьмеры раёну даюць зямельнай камісіі поўную магчымасьць пры вырашэньні спраў шырока карыстацца мясцовымі аглядамі ў мэтах стараннага і ўсебаковага выяўленьня акалічнасьцяй разглядаемых ею зямельных спраў. Паказаныя характэрныя рысы раённай зямельнай камісіі даюць ёй поўнаю магчымасьць вырашаць падсудныя ёй зямельныя справы ня толькі з захаваньнем закону, але і з падліку патрабаваньняў гаспадарчай мэтазгоднасьці на фоне мясцовых умоў сялянскага жыцьця.

Які-ж па партыйнасьці, сацыяльнаму становішчу, адукацыі і стажу склад зямельных камісій у БССР.

З маючыхся справаздачных зьвестак на 1-га кастрычніка 1926 году відаць, што у склад усіх раённых зямельных камісій уваходзіць 533 чалавекі, з іх 240, г.-ё. 45 проц., партыйных, і 293, г.-ё. 55 проц., беспартыйных.

Па сацыяльнаму становішчу ў складзе раённых зямельных камісій маецца 5 проц. рабочых, 91 проц. сялян і 4 проц. іншых.

Адукацыйны цэнз складу раённых зямельных камісій наступны: з вышэйшаю адукацыяю маецца ў іх 3 чалавекі, г.-ё. 1 проц., з сярэднюю адукацыяю маецца ў іх 49 чал. г.-ё., 9 проц., з ніжэйшаю адукацыяю 362 чал., г.-ё. 68 проц. і з дамоваю адукацыяю 119 чалавек, г.-ё. 22 проц.

Службовы стаж работнікаў раённых зямельных камісій ужо некалькі лепей. У іх маецца 29 чалавек (5 проц.), працуючых у зямельных органах болей 5 гадоў, 95 чалавек (18 проц.) з стажам ад 2 да 5 год і 409 чалавек (77 проц.), працуючых па земляўпарадкаваньню меней 2 гадоў.

У склад усіх акруговых зямельных камісій уваходзіць 70 чалавек, з іх 41 проц. партыйных і 59 проц. беспартыйных.

Па сацыяльнаму палажэньню ў складзе акруговых зямельных камісій маецца 5 рабочых, што дасьць 7 проц. да агульнага складу, 43 селяніны (82 проц.) і 22 іншых, галоўным чынам служачых (31 проц.).

Адукацыйны цэнз складу акруговых зямельных камісій значна вышэй, чым раённых. Асоб з вышэйшаю адукацыяю ў іх маецца 6, г.-ё. 9 проц., з сярэднюю адукацыяю 31, г.-ё. 44 проц., з ніжэйшаю 27, г.-ё. 38 проц. і з дамоваю адукацыяю 6 чалавек, г.-ё. 9 проц.

Таксама зусім здавальняючы склад акруговых зямельных камісій і па службоваму стажу. У іх маецца 30 чалавек (43 проц.,) працуючы у зямельных органах меней 2 год, 16 чалавек (23 проц.) з стажам ад 2 да 5 гадоў і 24 чалавекі (34 проц.), працуючых у зямельных органах звыш 5 гадоў.

У справаводстве Асобай Калегіі за мінулы год было 964 спрэчна-судовых, 560 земляўпарадчых спраў і 1.691 скарга ў парадку нагляду, 771 спрэчна-зямельная і 387 земляўпарадчых спраў, а ўсяго

3.215 спраў, з іх у парадку нагляду 2.656, у касацыйным парадку 187 і па сутнасьці 6 спраў. З агульнага ліку спраў, разгледжаных у парадку нагляду 1.691 скарга на рашэньні зямельных камісій адхілена ў распарадчых, а 965 спраў разгледжана ў судовых паседжаньнях Асобай Калегіі.

Засталося неразгледжаных спраў у справаводзтве Асобай Калегіі Вышэйшага Кантролю к пачатку бягучага году спрэчна-судовых 193 і земляўпарадчых 173, а ўсяго 365, што складзе 11 проц. агульнага ліку спраў, падлягаўшых разгляду.

Работа Асобай Калегіі Вышэйшага Кантролю можа служыць паказчыкам, паколькі правільна вырашаюцца справы зямельнымі камісіямі. За мінулыя гады разгледжана Асобай Калегіяй і адменена па скаргах наступная колькасьць рашэньняў зямельных камісій:

| Гады | Разгледжана спраў па скаргах Асобаю Калегіяй | Зьменена і адменена рашэньняў зямельных камісій | % адмены |
|---|---|---|---|
| 1924 | 434 | 183 | 42 |
| 1925 | 2.399 | 897 | 37 |
| 1926 | 2.849 | 640 | 23 |

Такім чынам у справаздачным годзе параўнальна з мінулым значна панізіўся % адмены абскарджаных рашэньняў зямельных камісій, што сьведчыць аб палепшаньні пастаноўкі ў іх справы.

З агульнага ліку разгледжаных Асобаю Калегіяй Вышэйшага Кантролю ў бягучым годзе спраў скаргі на рашэньні зямельных Камісій адхілены ў распарадчых паседжаньнях па 1.691 справе (59 проц.), скаргі пакінуты бяз вынікаў па разгляду ў судовых пасяджэньнях 519 спраў (18 проц.), рашэньні зямельных камісій адменены з зьвяртаньнем справы для новага разгляду па 462 справах (16%), рашэньні зямельных камісій адменены з спыненьнем справы справаводзтвам по 94 справах (4%) і рашэньні зямельных камісій зьменены па 83 справах (3 проц.).

Інструктаваньне раённых і акруговых зямельных камісій у мінулым годзе Асобай Калегіяй не рабілася за недахватам пэрсаналю, перагружанасьцю яго работай і недахватам сродкаў на разьезды. Затое Асобая Калегія цікавала за карэспандэнцыямі сельскораў, якія зьмяшчаліся ў цэнтральных і акруговых газэтах БССР. Па тых з заметак, у каторых адзначаліся недахваты ў рабоце зямельных камісій, патрабаваліся належныя зьвесткі і тлумачэньні, а пры неабходнасьці і арыгінальныя справы і даваліся належныя распараджэньні. Умешваньне Асобай Калегіі ў работу зямельных органаў па газэтных карэспандэнцыях патрэбавалася ў 80-цёх выпадках.

Такім чынам за час з 1-га кастрычніка 1925 году па 1-га кастрычніка 1926 году ў справаводзтве 100 раённых, 10 акруговых зямельных Камісіях і Асоб. Калегіі Вышэйшага Кантролю па зям. справах БССР было спрэчна-зямельных 28.425, земляўпарадчых 9.062 і 1.691 скарга ў парадку нагляду, разгледжаная ў распарадчых паседжаньнях Асобай Калегіі, а ўсяго 39.178 спраў.

Калі параўнаць работу зямельнага суду за справаздачны год з папярэднімі, то атрымаем наступныя лічбы.

| Гады | Было ў справаводзтве. | Вырашана. | % вырашаных спраў. |
|---|---|---|---|
| 1924 | 42.690 | 23.611 | 79 |
| 1925 | 39.761 | 34.033 | 86 |
| 1926 | 39.178 | 32.577 | 83 |

У бягучым годзе некалькі паменшыўся процант вырашаных спраў у зямельных судох БССР параўнальна з мінулым годам, а ў ліку нявырашаных ёсьць каля 15 проц. спраў, якія знаходзяцца ў справаводзтве болей трох месяцаў, што сьведчыць аб некаторай марудласьці тэмпу работы зямельных камісій.

Затое якасьць гэтай работы палепшылася, як аб гэтым можна судзіць па зьменшаных процантах абскарджаньня рашэньняў зямельных камісій і адмены гэтых рашэньняў вышэйшымі інстанцыямі.

**В.**

## 16. Аб перасяленьні за межы БССР.

### Куды дазволена перасяленьне з Беларусі.

Ня гледзячы на вялікае імкненьне насяленьня Беларусі да перасяленьня за межы яе, на свабодныя калёнізацыйныя фонды, мясцовым зямельным установам і самому насяленьню трэба мець на ўвазе, што перасяленьне ні ў якім разе не павінна разглядаць, як адзіны выхад з цяжкага гаспадарчага становішча паасобных груп сялянства. Найбольш правільным і сапраўдным спосабам да памяншэньня лішніх, нескарыстоўваемых сіл у вёсцы, трэба лічыць пераход да больш рацыянальных форм гаспадараньня, і зямельныя органы ў гэтым напрамку павінны паглыбляць працу на мясцох, ні якім чынам не заахвочваючы сялянства да перасяленьня.

У бягучым 1927 годзе перасяленьне будзе праводзіцца ў адпаведнасьці з маючымся запасам падрыхтаванага, годнага для безадкладнага скарыстаньня калёнізацыйнага фонду, і хоць рабты ў мінулым годзе па падрыхтоўцы гэтага фонду былі пашыраны, але колькасьць яго далека не выстарчае для здавальненьня ўсіх заяў на перасяленьне.

Па БССР паступіла заяў на перасяленне больш як ад 100.000 душ, а дадзена нам калёнізацыйнага фонду на гэты год ўсяго толькі на 28.000 душ. З гэтага ліку ў Уральскай вобласьці—на 5.500 душ, у Сібіры—на 19.000 душ і на Далёкім Усходзе—на 3.500 душ.

Дадзены фонд знаходзіцца ў наступных акругах: у Уральскай вобласьці, акругі: Троіцкая, Ішымская і Цюменская; у Сібіры, акругі Омская, Баравінская, Тарская, Томская, Кузьняцоўская, Ачынская, Краснаярская, Канская, Тулунская і Іркуцкая; на далёкім ўсходзе акругі: Уладзівастоцкая, Хабараўская, Амурская, Срэценская і Чыцінская.

Дадзены для БССР калёнізацыйны фонд разьмеркаваны памім яе акругамі ў адпаведнасьці з перанаселенасьцю і цягаю насельніцтва да перасяленьня.

## Калі пачнецца пасылка хадакоў і парадак пасылкі іх,

Перасяленьне праводзіцца выключна ў плянавым парадку і будзе дазваляцца толькі тым сем'ям, якія праз хадакоў залічаць за сабою зямлю ў мясцох ўсяленьня.

Пасылаць хадакоў ва ўсе адкрытыя для перасяленьня раёны дазваляецца з 15 сакавіка да 1 лістапада, а ў зімнія месяцы (з 1-га лістапада да 15-га сакавіка) хадацтва спыняецца, але трэба папярэдзіць жадаючых ехаць у хадакі аб тым, што найбольш выгодным для агляду вучасткаў часам зьяўляецца травень і чэрвень месяцы, калі зямля ўжо ачышчаецца ад сьнегу і ўскрываюцца рэкі.

Каб паслаць хадакоў, гаспадаркі, жадаючыя перасяліцца, павінны скласьці пасямейна-маемасныя сьпісы, блянкі, якіх маюцца ў сельсаветах, напісаць даверанасьць выбранаму хадаку і, заверыўшы гэтыя дакумэнты ў сельсавеце, пераслаць іх праз свой Раённы Выканаўчы Камітэт у Акруговы Зямельны Аддзел, адкуль, калі дойдзе чарга, будуць выдадзены хадацкія пасьведчаньні і льготны праезд.

Ні ў якім разе не дазваляецца пасылаць аднаго хадака болей як ад 10-ці сямей, а меней як ад 10-ці—можна і нават можна пасылаць хадака ад адзіночных гаспадарак.

Пры выдачы хадацкіх дакумэнтаў ад хадакоў бярэцца зямельнымі органамі падпіска аб тым, што яны сапраўды едуць толькі для адшуканьня зямлі для сябе або для сваіх давярыцеляў.

Хадацкія пасьведчаньні, выдадзеныя на Далёкі Ўсход будуць даваць права на залічэньне зямлі толькі на Далёкім Ўсходзе, а ў іншых, адкрытых для засяленьня раёнах, зямля па гэтых пасьведчаньнях, залічацца ня будзе. Разам з гэтым хадацкія пасьведчаньні, выдадзеныя ў Сібір, будуць сапраўднымі і для залічэньня зямлі на Далёкім Ўсходзе.

Кожнаму хадаку зямельнымі органамі выдаюцца кніжкі з паказаньнем раёну, куды ён накіроўваецца для залічэньня зямлі.

## Якія ёсьць новыя захады ў перасяленчай справе.

Паводле распараджэньня Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту СССР з бягучага году адмяняецца існаваўшае вымаганьне матар'яльнай запясьпекі ад гаспадарак, жадаючых перасяліцца. Аднак-жа зямельным установам запрапанавана папярэджваць усіх жадаючых перасяліцца, што перасяленчая справа надзвычайна цяжкая і што для сталага ўпарадкаваньня на новым месцы перасяленцам трэба мець уласныя сродкі, бо дзяржава ня можа поўнасьцю ўзяць на сябе ўсе выдаткі па гэтаму ўпарадкаваньню. Кожнай сям'і на ўпарадкаваньне гаспадаркі прыдзецца патраціць ад 600 да 800 руб., з якіх толькі каля 200-300 руб. можа быць атрымана, як пазыка, з дзяржаўных сродкаў.

Існаваўшыя льготы для перасяленцаў: льготны праезд хадакоў і перасяленцаў і правоз іх багажу па чыгунцы, бясплатны водпуск лесу ў лясістых мясцох усяленьня на пабудову, адтэрміноўка прызыву ў Чырвоную армію, права здаваць на тры гады сваю зямлю на старым месцы, застаюцца ў сіле. Пры этым Народным Камісарыятам Земляробства БССР зроблена распараджэньне мясцовым зямельным

органам аб безадкладнай рэгістрацыі даговараў на здачу перасяленцам сваёй зямлі ў арэнду (Бюл. СНК № 16—1926, старонка 21).

Адпраўка хадакоў і перасяленцаў будзе праводзіцца па магчымасьці эшалонным парадкам, для чаго будуць падбірацца адпаведныя перасяленчыя групы і партыі.

На час найбольшага хадацкага і перасяленчага руху, па меры патрэбы, будзе ўведзен спэцыяльны перасяленчы поезд па лініі. Вязьма—Сызрань, Сызрань—Чалябінск і Чалябінск—Іркутск. Хадакам і перасяленцам раіцца ехаць з гэтым поездам, бо астаноўкі яго прыстасаваны спэцыяльна для патрэб абслугоўваньня хадакоў і перасяленцаў на перасяленчых пунктах. Расьпісаньні падходу паяздоў з бакавых чыгуначных ліній, будуць таксама прыстасаваны да руху перасяленчага поезду.

Па лініі сьледаваньня хадакоў і перасяленцаў маюцца спэцыяльныя перасяленчыя пункты, на якіх перасяленцам даюцца неабходныя тлумачэньні, даведкі і дапамога. Галоўным пунктам зьяўляецца Чалябінскі пункт, дзе кожны хадак і перасяленец павінен абавязкова зарэгістравацца.

Для дапамогі па ўпарадкаваньні на новых мясцох перасяленцам-беларусам. Народны Камісарыят Земляробства БССР камандыраваў у гэтым годзе ў Сібір свайго прадстаўніка тав. Байко П. С., які ў час найбольшага руху хадакоў і перасяленцаў (красавік—чэрвень м-цы) будзе знаходзіцца ў Чалябінску пры перасяленчым пункце і да яго могуць зварочвацца ўсе хадакі і перасяленцы-беларусы за ўсімі нарадамі і даведкамі па перасяленчых справах; у астатні час ён будзе раз'яжджаць па вучастках, дадзеных для засяленьня беларусамі.

**У. Наліўка.**

---

Адказны Рэдактар: **Рэдакцыйная Калегія.**

10094

